НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 34 (775) 12 верасня 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у се

## Колькі можа зарабіць за ноч нелегальны таксіст?



Як мінімум 400 тысяч рублёў — журналіст праверыў гэта сам. Старонка 9.

## Дубы Максіма Танка



Экскурсія на радзіму паэта. Старонкі 10-11.

# «Ну, гэта для сваіх»

Экс-дэпутатка Вольга **Абрамава раскрыла**, як праходзяць «выбары» ў Беларусі. **Старонка 4.**



**Наталля Пяткевіч і Вольга Абрамава (калаж).**

PHOTO.BYMEDIA.NET

Тэндэнцыі

## «Допінг Надзеі Астапчук дадаў у ежу яе трэнер»

Такую заяву зрабіў **дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва** Аляксандр Ванхадла.

Штурхальніца ядра Надзея Астапчук бліскуча выйграла Алімпіяду ў Лондане, але праз колькі дзён прыйшла нечаканая навіна. У крыві атлеткі знайшлі забаронены прэпарат. Гэта пры тым, што папярэднія допінг-пробы былі «чыстымі».

Прадстаўнікі НАДА запэўнілі, што трэнер Аляксандр Яфімаў зрабіў добраахвотнае прызнанне. Маўляў, допінг ён падсыпаў у ежу 30 ліпеня, бо не быў упэўнены ў добрым выступе Надзеі на Алімпіядзе. Антыдопінгавае агенцтва прапануе дыскваліфікаваць Астапчук на год, а яе трэнера — на чатыры.

Сам Яфімаў не вельмі ахвочы на словы. «Я змяню прозвішча з Яфімава на Ідыёт», — сказаў ён у інтэрв'ю «Еўрарадыё», намякнуўшы, што не ўсё так проста ў гэтай справе.

«Не веру, што гэта быў Яфімаў. Гэта абсурд нейкі. Ён мне маці замяніў пасля яе смерці», — сказала Надзея Астапчук.

«Гэтая сітуацыя за мяжой здаровага сэнсу і майго разумення», — адзначыў былы кіраўнік федэрацыі лёгкай атлетыкі Аляксандр Рудскіх.

Але фактам застаецца тое, што Надзея Астапчук здала свой залаты медаль Алімпіяды, шанцаў на яго вяртанне не засталося.

**Зміцер Панкавец**

«Выбары»-2012

### Крыжаноўскі дэпутатцы: «Ідзіце, варыце боршч»

Кандыдаты ператварылі дэбаты ў шоу. **Старонка 3.**



Гучная справа

### Ствараў умовы для прастытуцыі?

Бізнэсоўцу Юрыю Данькову пагражае ад 7 да 10 гадоў турмы. **Старонка 5.**



Здарэнні

### Пяць смерцяў у адным БМВ

Ля Белавежы разбілася аўто з моладдзю. **Старонка 7.**



Жарты

### Пуцін і журавы

Палёт прэзідэнта Расіі з чарадой адразу знайшоў адлюстраванне ў карыкатурах. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Лямпачка засвеціць па-рознаму

Беларусам хутка давядзецца **эканоміць электраэнергію**.

Эксперымент з раздзяленнем вады на нарматыўную і звышнарматыўную даў такі эфект, што прынята рашэнне распаўсюдзіць яго і на электраэнергію. Новыя правілы і новыя тарыфы вызначаныя **(глядзі табліцу)**, але калі яны запрацуюць, пакуль невядома. Прыдуманая схема разліку ўлічвае перыяд года, тып пліты і колькасць зарэгістраваных жыльцоў. Як заўжды, у найбольшым пройгрышы застануцца жыльцы кватэраў, у якіх ніхто не зарэгістраваны. Яны будуць плаціць напоўніцу. Затое для шматдзетных сем'яў, уласнікаў садовых і гаражных таварыстваў, а таксама тых, хто плаціць за электрычнасць ураніцы і ўвечары па розных тарыфах, будзе льготны тарыф.

Арганізацыя «Белэнерга» заяўляе, што канчатковае рашэнне яшчэ не прынята, і да канца наступнага месяца працягвaецца грамадскае абмеркаванне праекта.

### Прыклады

У кватэры з электраплітой зарэгістраваныя чацвёра. Зімой спажываюць 200 кВ/г. Плацілі 50 120 рублёў. Будуць плаціць 51 730 рублёў.

У кватэры з газавай плітой зарэгістраваны адзін чалавек, але жывуць чацвёра. Зімой спажываюць 150 кВ/г. Плацілі 44 250 рублёў. Будуць плаціць 65 310 рублёў.

У кватэры з электраплітой зарэгістраваны адзін чалавек. Летам спажывае 80 кВ/г. Па-ранейшаму будзе плаціць 20 000 рублёў.

У кватэры з газавай плітой не зарэгістраваны ніхто, але жывуць двое. Летам спажываюць 100 кВ/г. Плацілі 29 500 рублёў. Будуць плаціць 59 590 рублёў.

**ЯМ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Новыя правілы аплаты электраэнергіі**

| | Час | Норма | Тарыф ільготны* | Тарыф поўны |
|---|---|---|---|---|
| Электрапліта | ацяпляльны сезон** | 135 кВ/г за аднаго чалавека +20 кВ/г за наступных | 250 руб. за кВ/г | 595,9 руб. за кВ/г |
| | міжацяпляльны сезон*** | 120 кВ/г за аднаго чалавека +20 кВ/г за наступных | | |
| Газавая пліта | ацяпляльны сезон** | 80 кВ/г за аднаго чалавека +15 кВ/г за наступных | 295 руб. за кВ/г | 595,9 руб. за кВ/г |
| | міжацяпляльны сезон*** | 70 кВ/г за аднаго чалавека +15 кВ/г за наступных | | |

*адпавядае цяперашняму тарыфу **з 1 красавіка да 30 верасня ***з 1 кастрычніка да 31 сакавіка

## Бяляцкаму будзе 50, павіншуй чалавека



Праваабаронца адзначыць паўвекавы юбілей 25 верасня. Даслаць паштоўку або ліст Алесю Бяляцкаму можна па адрасе: 213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія № 2, атрад № 14.

## 46-гадовы былы вайсковец Петрышэнка прызначаны паслом у Расіі

Ён замяніў на пасадзе **Андрэя Кабякова**.

Ігару Петрышэнку 46 гадоў. Ён родам з Нягліобкі, што ў Веткаўскім раёне, на ўсходзе Гомельшчыны. Ён кадравы афіцэр-СПАшнік. У Саўмін прыйшоў працаваць у 1996, у першай лукашэнкаўскай хвалі.

Петрышэнка належыць да трохі маладзейшага пакалення бюракратаў. Дагэтуль амаль усе найвышэйшыя пасады займалі чыноўнікі і сілавікі, народжаныя ў 1940–1950-х.

Пасада пасла ў Расіі адна з ключавых у лукашэнкаўскім апараце, бо ад расійскіх субсідый залежыць стабільнасць беларускай сістэмы.

Папярэдні пасол у Маскве Андрэй Кабякоў да таго працаваў віцэ-прэм'ерам, а пасля таго стаў кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта.

**МБ**



### Сціслa

**114 кандыдатаў падпісалі зварот у абарону Дашкевіча**

Кандыдаты ў дэпутаты патрабуюць тэрмінова вызваліць лідара «Маладога фронту» ды іншых палітвязняў.

**У Бярозе забілі 20-гадовую дзяўчыну**

Яе знайшлі на ўскраіне гораду, недалёка ад вадаёма Паўночны. Супрацоўнікі міліцыі кажуць, што на целе знойдзены прыкметы гвалтоўнай смерці.

**Былы офіс БНФ аддалі пад аддзел сацабароны**

Раней памяшканне на праспекце Машэрава,8 ЖРЭА здаваў у арэнду і меў з гэтага добры прыбытак. Гэтае памяшканне загадалі выдзеліць аддзелу сацыяльнай дапамогі. Пры гэтым меркаваннем мясцовых камунальнікаў хоць і пацікавіліся, але «не асабліва».

**Невядомыя падпалілі машыну кандыдата ад АГП**

Пажар здарыўся 10 верасня. Машына кандыдата Аляксея Ціханенкава была прыпаркаваная на лецішчы каля вёскі Кабылякі ў Аршанскім раёне.

**Намесніка начальніка цэха на БМЗ падазраецца ў крадзяжы двух падшыпнікаў**

Крымінальная справа распачата ў дачыненні да намесніка начальніка трубапракатнага цэха ААТ «Беларускі металургічны завод» у Жлобіне. «Падазраваны, уступіўшы ў змову з нявызначанымі асобамі, з тэрыторыі завода спрабаваў скрасці два падшыпнікі агульным коштам больш за 32 млн», — паведамілі ў Следчым камітэце.

**ЗП**

### Рэкамендуем

**Шок і абсурд у цэнтры сталіцы**

У Мінску адбыўся чарговы фестываль перформансу NAVINKI–2012. Удзельнікі мылі падлогу кавалкам сырога мяса, спакушалі мяккія цацкі і валяліся на асфальце пасярэдзіне праспекта Незалежнасці.

**Глядзіце відэа на nn.by**

### Самае чытанае за 5—11 верасня

1 Крыжаноўскі дэпутатцы Шылавай на тэледэбатах: «Ідзіце і варыце боршч» — відэа

2 Шок і абсурд у цэнтры сталіцы

3 Былога кіраўніка БРСМ асудзілі на 7 год калоніі ўзмоцненага рэжыму

4 Вольга Абрамава расказала пра альсіфікацыю выбараў-2008

5 Пра Юрыя Данькова, які раней быў Шыцікам

6 Дзеля карткі са зніжкамі мінчукі душыліся пры адкрыцці новай крамы

7 «Будаўнікоў і сантэхнікаў трэба страляць як пры Сталіну»

8 Вайсковая слава і бясслаўе гісторыкаў

9 Чаму Лукашэнка перамог у 94-м?

10 Ля Белавежы разбілася BMW 3-Series — загінула 5 чалавек

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

# Крыжаноўскі дэпутатцы Шылавай на тэледэбатах: «Ідзіце і варыце боршч»

Дэбаты з удзелам старшыні АГП Анатоля Лябедзькі і актора Яўгена Крыжаноўскага **ператварыліся ў спектакль**.

У дэбатах па Паўднёва-Заходняй акрузе Мінска ўзялі ўдзел двое кандыдатаў — дзейная дэпутатка Святлана Шылава, высунутая ў кандыдаты ад мясцовай паліклінікі, а таксама акцёр Яўген Крыжаноўскі ад ЛДПБ. А вось замест сябра АГП Уладзіміра Раманоўскага прыйшоў старшыня партыі Анатоль Лябедзька як ягоная даверaная асоба.

Шылава праслаўлялася сваёй заявай пра тое, што заробку ў тры мільёны рублёў дастаткова для сям'і з двума дзецьмі. Менавіта да яе адрасавалі свае вострыя пытанні і Лябедзька, і Крыжаноўскі, ператварыўшы дэбаты ў спектакль. «Мне здаецца, што хопіць аднаго тэрміну, — пачаў здалёк пытанне да доктаркі Шылавай Яўген Крыжаноўскі. — Яна выдатны спецыяліст. Прафесія чакае вас, Святлана Дзмітрыеўна! Я лічу, што трэба вяртацца ў сям'ю».

Шылава паспрабавала адказаць, што падчас дэпутацтва працягвала доктарскую дзейнасць, і менавіта яе веды патрэбныя парламенту. Аднак Крыжаноўскі зноў вярнуўся да тэмы, калі Шылава заявіла, што з'яўляецца намесніцай Саюза жанчын Беларусі.

«Вы ж паважаеце Лідзію Міхайлаўну Ярмошыну? А што яна сказала ў жывым эфіры? — звярнуўся ён да дэпутаткі і, не даючы адказаць, працягнуў: — Яна сказала: жанчыны, не займайцеся палітыкай, варыце баршчы. У вас трое дзяцей, муж, варыце ім баршчы».

Шылава паспрабавала выкруціцца з сітуацыі, робячы кампліменты Ярмошынай, але пра боршч так і не адказала.

**Ягор Марціновіч**



Яўген Крыжаноўскі зладзіў палітычны спектакль у жывым эфіры.

**Лябедзька напалохаў**

Старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай не спадабалася, што на тэледэбатах кандыдата ў дэпутаты ад АГП Уладзіміра Раманоўскага прадстаўляе лідар партыі Анатоль Лябедзька, які таксама зарэгістраваны кандыдатам ў іншай акрузе.

«ЦВК лічыць, я лічу, што, калі кандыдат з'яўляецца даверанай асобай іншага кандыдата, ён не мае права выступаць за яго ў тэле- і радыёдэбатах», — падкрэсліла Ярмошына.

Лябедзька з'яўляецца даверанай асобай у 17 кандыдатаў, Крыжаноўскі — у 7.

**ЗП**

## У савеце рэспублікі ўпершыню з'явяцца прадстаўнікі ад «расійскага» і «заходняга» бізнэсу

Як будзе выглядаць палата? 56 кандыдатаў на 56 месцаў + 8 прызначае Лукашэнка. **Шакуцін, Рубінаў, Марзалюк**, губернатары...

5 верасня Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў зарэгістраваныя кандыдаты ў члены савета рэспублікі пятага склікання.

Іх 56, і яны прэтэндуюць на 56 месцаў у савеце рэспублікі. Адпаведна, будзе зацверджана кандыдатура кожнага з іх. Апроч таго, восем сенатараў прызначыць асабіста Аляксандр Лукашэнка. Адметна, што з усіх кандыдатаў толькі адзін «партыец» — Мікалай Канявалаў з КПБ.



Ігар Марзалюк.

Ёсць, прынамсі, адзін вельмі багаты чалавек — Аляксандр Шакуцін з «Амкадора» — так бы мовіць, паўнамоцны прадстаўнік ад корпуса мільянераў. І, прынамсі, адзін чалавек, здольны гаварыць пабеларуску: гісторык з Магілёва Ігар Марзалюк.

У сваіх кнігах і артыкулах у часопісе Arche ён адстойваў скептычны погляд на Вялікае Княства Літоўскае і шмат палемізаваў пра яго з Генадзем Сагановічам. Цікава, ці будзе Марзалюк публічна гаварыць па-беларуску, ці пачне прыстасоўвацца.

Даволі шмат прысутнічае паспяховых бізнэсоўцаў і гаспадарнікаў, сярод іх Мартынаў з «Марка», Сянько з «Ё-Інжынірынга» (бізнэс расейскі) і Навіцкі з «Хенкель Баўтэхнік» (бізнэс з заходнімі сувязямі), а таксама аграрнікі Равяка (Верцялішкі), Радаман (Сноў), Мароз (Белавежскі), Пінчук (Магілёў), Шарэйка (Віцебск).

Ну, і рытуальныя заатэхнікі, заг. РАА, галоўныя і негалоўныя дактары, адзін газавік, адзін нафтавік, два калійнікі і адстаўны цяжкаатлет. Ад кожнай сацыяльнай групы — па прадстаўніку, як і належыць карпаратыўнай дзяржаве.

Сенатарамі стануць усе кіраўнікі абласцей і Мінска, многія старшыні нашых безгалосых абласных саветаў.

Большасць кандыдатаў мае ўзрост 50–60 гадоў. Выразна старэйшы толькі адзін — цяперашні старшыня савета рэспублікі Анатоль Рубінаў, знакаміты ідэолаг і адначасова паэт, аўтар вершa пра туалецішча.

Савет рэспублікі ў выніку ўяўляе сабой такі элітарны клуб, належаць да якога прэстыжна, матэрыяльна выгадна і па-свойму цікава. Вырашаць гэты клуб нічога не вырашае, але біць чалом цару-бацюхну ў выпадку чаго дае магчымасць.

**Мікола Бугай**

**Фотафакт**





**У Брэсце народ агітуюць за казла. На выбары, на якіх загадзя вядомы пераможцы, народ рэагуе смехам. Гэтак, у Брэсце невядомыя распаўсюдзілі ўлёткі з агітацыяй за «казла».**

## Топ-5 самых багатых мінскіх кандыдатаў

Сярод кандыдатаў у дэпутаты парламента можна сустрэць прадстаўнікоў розных прафесій. Хто зарабляе больш за ўсіх? «Наша Ніва» прагартала падатковыя дэкларацыі сталічных кандыдатаў.

Варта ўдакладніць, што ў прадпрымальнікаў гэтыя лічбы могуць не адпавядаць заробку — на выручаныя грошы яны зноў купляюць тавар і зноў яго прадаюць.

**1. Уладзімір Шабан — 1,48 мільярда + валюта**

27-гадовы намеснік Сяргея Гайдукевіча ў ЛДП і па сумяшчальніцтве індывідуальны прадпрымальнік стаў рэкардсменам. Ягоны афіцыйны даход за 2011 склаў больш за паўмільёна даляраў у эквіваленце. Лічыце самі: 1,5 мільярда рублёў, $220 тысяч, 6,5 тысячы еўра і 35 тысяч расійскіх рублёў. Ва ўласнасці ў мільянера памяшканне грамадскага харчавання, пабудова для спецыялізаванага рознічнага гандлю, 2 зямельныя ўчасткі ў Мінску, 2 зямельныя ўчасткі і жылы дом з пабудовамі ў Віцебскай вобласці, легкавы аўтамабіль.

**2. Уладзімір Майбарада — 1,27 мільярда**

Яшчэ адзін ІП-шнік, 30-гадовы Уладзімір Майбарада ідзе на той самай Шабаноўскай акрузе. У адрозненне ад Шабана, ён беспартыйны. Майбарада летась атрымаў даход 1,27 мільярда рублёў. Апроч таго, мае дачу на Чэрвеньшчыне і дзве машыны.

Прадпрымальнікі засвяцілі свае мільярды, кінуўшы выклік старшыні раённай арганізацыі «Белая Русь». Хтосьці бачыць іх перспектывы перамагчы на выбарах?

**3. Ігар Бабок — 281 мільён**

Трэцім ідзе ідэолаг з «Мілавіцы», які на Старавіленскай акрузе будзе даваць бой дзейснаму дэпутату Мікалаю Самасейку і Анатолю Лябедзьку. Да свайго 281 мільёна ён далучыў дзве кватэры, гараж, легкавік, а таксама — 16 акцый «Беларусбанка» і 1 акцыю роднай «Мілавіцы».

**4. Ганна Канапацкая — 241 мільён**

Услед за імі ідзе яшчэ адзін прыватнік. Сябра АГП Ганна Канапацкая са сваім 241 мільёнам стала самай багатай кандыдаткай ад дэмакратычнай супольнасці. Ганна з'яўляецца дырэктаркай ТАА «Грынрэй» і мае 24% у статутным фондзе прадпрыемства. Астатні багаж стандартны — кватэра, гараж, машына.

**5. Дзмітрый Шаўцоў — 181 мільён**

Першы з бюджэтнікаў у спісе, 39-гадовы Дзмітрый Шаўцоў працуе галоўным урачом 34-й паліклінікі. Хутчэй за ўсё, ён стане самым багатым дэпутатам ад сталіцы, бо на сваёй Коласаўскай акрузе выглядае ўладным кандыдатам. З маёмасці — кватэра і аўто.

**ЯМ**

# Вольга Абрамава расказала пра фальсіфікацыю выбараў-2008

Наталля Пяткевіч: «Вольга Міхайлаўна, **што вы хочаце ў якасці кампенсацыі** за тое, што вы больш не будзеце дэпутатам?»

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета і палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава перад парламенцкімі выбарамі расказала пра тое, як фальшаваліся вынікі выбараў па акрузе № 108 у 2008. Пра гэта дэпутатка маўчала 4 гады.

Тэхналогіі і механізмы фальсіфікацыі выбараў добра адпрацаваныя, кажа Вольга Абрамава: калі ў 2000-м пераважала ўкідванне бюлетэняў, то цяпер няма і такой патрэбы, асабліва пасля таго, як было ўхвалена рашэнне захоўваць бюлетэні пасля выбараў не 4 гады, а толькі паўгода. Гэта пралабіявалі рэгіянальныя начальнікі, якія ўсё ж пабойваюцца гіпатэтычнай адказнасці.

Вольга Абрамава кажа, што зазнала дзеянне фальсіфікацыі на ўласнай скуры падчас выбараў 2008. На той час яна была дзейным дэпутатам ужо тры скліканні. Перад выбарамі ўлады паспрабавалі «пераканаць» Абрамаву адмовіцца ад балатавання:

«У чэрвені мяне запрасіла ў Адміністрацыю прэзідэнта Наталля Пяткевіч. «Вольга Міхайлаўна, што вы хочаце ў якасці кампенсацыі за тое, што вы больш не будзеце дэпутатам?»

У мяне сківіца адвісае, а потым прыходжу ў сябе і пытаюся: «А як вы гэта сабе ўяўляеце?» Пяткевіч настойвала, і тады Абрамава назвала дзве пасады, на якія яе апрыёры не прызначылі б. «Яна нават пакрыўдзілася і сказала нешта накшталт: ну, гэта для сваіх. Наступным разам я, каб закрыць тэму, патэлефанавала ёй і сказала: «Давайце будзем лічыць, што ніякай гутаркі ў нас не было. Ініцыятыва была вашая, і ў мяне ніякіх пытанняў да ўлады няма».

Такіх «някемлівых» дэпутатаў у Мінску выявілася некалькі, і іх запрасілі да кіраўніка гарвыканкама Міхаіла Паўлава. «Ён вымавіў сакраментальную фразу: «Павінна быць ратацыя. Тыя, хто быў дэпутатамі два і тры разы, больш дэпутатамі не будуць». Прычым ён сказаў гэта ў прысутнасці вялікай колькасці чыноўнікаў».

Падчас выбараў Абрамава як дзейны дэпутат і кандыдат не змагла сустрэцца з калектывамі 5 установ на тэрыторыі сваёй акругі. Толькі рэктар Мастацкай акадэміі прыслаў ліст з выбачэннямі, іншыя нават не адказалі.



Наталля Пяткевіч.

PHOTO.BYMEDIA.NET



PHOTO.BYMEDIA.NET

Вольга Абрамава.

Калі падводзіліся вынікі выбараў 2008, звесткі з яе 108-й Каліноўскай акругі ў ЦВК паступілі аднымі з апошніх, нават затрымалі агульную справаздачу ЦВК. «Уяўляеце, якая там была «нестыкуха», што, нягледзячы на датэрміновае галасаванне, ім не ўдалося звесці канцы з канцамі».

Па афіцыйных выніках Абрамава набрала 24 працэнты галасоў, а яе мала каму вядомы канкурэнт Мікалай Казак — 60. Пасля абвяшчэння лічбаў да Абрамавай прыйшоў міжнародны назіральнік.

Пры гэтым ён сказаў: «Давайце вырашаць, што будзем рабіць. У мяне прамыя доказы фальсіфікацый, мы можам узарваць усю сітуацыю».

«Ён прынёс мне копіі двух пратаколаў — той, які раздалі назіральнікам пасля заканчэння выбараў у асноўны дзень галасавання, і той, які ён змог вырваць у старшыні акруговай камісіі на наступны дзень, які пайшоў у ЦВК. Гэта былі два розныя пратаколы».

Вольга Абрамава тады вырашыла прамаўчаць. Тыя дакументы пасля назіральнік аддаў Лідзіі Ярмошынай.

Вольга Абрамава гэтак адказала, чаму цяпер вырашыла агучыць гэтыя факты: «Можа, пасля гэтай публікацыі, па-першае, на ўзроўні рэгіянальных уладаў людзі хоць пра нешта задумаюцца, хаця б пра сваю бяспеку — я прыхільніца таго, каб пачаць збор подпісаў за ўнясенне ў Крымінальны кодэкс зменаў, каб жорстка караць за фальсіфікацыі. І другое — я апелюю да ўлады: чаго вы баіцеся? Палітычны расклад сёння такі, што ўсё роўна большасць будзе за вамі. Пакуль што. Унясіце хаця б нейкую канкурэнцыю ў парламент, зрабіце палітычны працэс цікавейшым, хай людзі пабачаць, што ёсць іншая думка».

**Валер Каліноўскі, радыё «Свабода»**

# «Мы толькі скончылі дзявяты клас»

6 верасня Малады Фронт **адзначыў свой юбілей**.

На пышныя залы для святкавання разлічваць не выпадала, таму пляцоўкай была абраная сядзіба Партыі БНФ. У дварах ля Чарнышэўскага стаялі дзіўныя людзі з відэакамерамі. Блізка не падыходзілі, фільмавалі здалёк.

На ганку сядзібы Наста Палажанка і Станіслаў Шушкевіч, што прыйшоў юнакоў павіншаваць, раздаюць інтэрв'ю. Даносіліся Насціны словы, што «рэпрэсіі не спыняць дзейнасць».

У самім будынку на сценах развешаныя рознакаляровыя аркушыкі з імёнамі былых маладафронтаўцаў і іхнімі словамі аб МФ — Яўген Скочка, Яўген Афнагель, Зміцер Дашкевіч. Уладзімір Някляеў цёпла абняўся з татам Змітра Дашкевіча. Спадар Вячаслаў прыйшоў на імпрэзу з кіёчкам, з усімі вельмі прыязна вітаўся.

«Першы раз на сына была заведзеная крымінальная справа ў сакавіку 2006, а ў ліпені яго выпускалі ў Амерыку. Ясна, што хацелі, каб не вярнуўся. Я таксама раіў не вяртацца, бо ведаў, што пасадзяць, але Зміцер адмовіўся. Сказаў, давай закрыем гэтую тэму», — расказаў Вячаслаў Дашкевіч. Апошні год тата Змітра змагаецца з ракам.

Вядучымі былі Наста Палажанка, у строгай чорнай сукенцы, і Мікола Дземідзенка, у пінжаку і джынсах. «Дзякуй Богу, што Малады Фронт па-ранейшаму існуе», — сказала Наста.

«15 гадоў — узрост цяжкі. Мы дзесьці скончылі дзявяты клас», — пажартаваў Мікола. «Уладзімір Пракопавіч, не ведаю як хто, але я гатовы ісці да канца», — перадаваў словы Змітра Дашкевіча перад Плошчай Уладзімір Някляеў. Паэт параўнаў Дашкевіча з Кастусём Каліноўскім. У гэтыя хвіліны на офісе «Гавары праўду» пачынаўся вобшук.

«Колькі б мне гадоў ні было, але заўсёды буду лічыць сябе маладафронтаўцам», — сказаў колішні сустаршыня МФ Сяржук Бахун. «Я ганаруся, што ў майго сына такія сябры», — зазначыла мама палітвязня Эдуарда Лобава, якая атрымлівала прэмію за сына.

Скончылася імпрэза салодкім сталом.

**Зміцер Панкавец**



На імпрэзу прыйшлі маладафронтаўцы розных пакаленняў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Маладафронтавец года**

На імпрэзе была запачаткаваная прэмія «Маладафронтавец года». Уручылі яе адразу за 15 гадоў існавання арганізацыі:

1997 — Яўген Скочка, 1998 — Аляксей Януковіч, 1999 — Валянцін Стэфановіч, 2000 — Аляксей Шэін, 2001 — Алёна Вальнец, 2002 — Віталь Супрановіч, 2003 — Сяржук Лісічонак, 2004 — Сяржук Бахун, 2005 — Артур Фінькевіч, 2006 — Зміцер Дашкевіч, 2007 — Зміцер Хведарук, 2008 — Іван Шыла, 2009 — Тацяна Шапуцька, 2010 — Эдуард Лобаў, 2011 — Кася Галіцкая.

Маладафронтаўцам пятнаццацігоддзя стаў Павел Севярынец.

# Ствараў умовы для прастытуцыі?

**Вядомаму бізнэсоўцу Юрыю Данькову пагражае ад 7 да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.**

Юрыя Данькова затрымалі 4 верасня. Яму прад’яўлена абвінавачванне ў стварэнні ўмоваў для занятку прастытуцыяй з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў. Па тым самым артыкуле абвінавачваецца і мастацкі кіраўнік Dankoff Club’a, узяты пад варту каля 10 дзён таму. Сам Данькоў меў час, каб пакінуць краіну, аднак не зрабіў гэтага. Цяпер абодвум пагражае пазбаўленне свабоды на тэрмін ад 7 да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.



Так выглядалі супрацоўніцы клуба.

Данькоў пачынаў у 1990-х з грузаперавозак, але даволі хутка сканцэнтраваўся на гульнявым бізнэсе. Ён набыў у Беларускага таварыства глухіх будынак у самым цэнтры, каля Дома ўрада, па адрасе Мяснікова, 25 і заснаваў там свой Dankoff Club. Для прыгожай назвы ён змяніў прозвішча — раней бізнэсмэн быў не Даньковым, а Шыцікам. Клуб прыносіў гаспадару сталую выручку і патроху разрастаўся. Цяпер у ягоны склад уваходзяць казіно, рэстаран, мужчынскі спа-салон і стрыптыз-клуб. Так-так, «мужчынскі спа-салон». Менавіта на гэтай тэрыторыі, па меркаванні следства, апошнія шэсць гадоў працаваў бардэль. Але нібыта толькі цяпер пра яго стала вядома праваахоўным органам.

Данькоў мог бы заставацца звычайным бізнэсоўцам сярэдняй рукі, які амаль ніколі не фігуруе ў прэсе і становіцца вядомым грамадскасці толькі пасля гучнага арышту. Аднак імя эпатажнага мільянера доўга заставалася на слыху за кошт ягонай даўняй палітычнай гульні. Ці, дакладней, падгульвання. У канцы 1990-х Данькоў «перамог» на мясцовых выбарах і засядаў у Мінскім гарадскім савеце дэпутатаў. Больш за тое, па словах былога кандыдата ў прэзідэнты Дзмітрыя Уса, ён нават парываўся стаць старшынёй савета. У 2000 годзе ён зноў выбіўся з ценю і паспрабаваў стаць дэпутатам парламента, нават прайшоў у другі тур выбараў, але ў выніку саступіў іншаму бізнэсоўцу, Аляксею Ваганаву.

Вядомым на ўсю краіну Данькоў стаў у 2001, калі заявіў пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Ён прапаноўваў астатнім прэтэндэнтам згуляць у ягоным клубе ў рулетку. Маўляў, хто бу-дзе самым удачлівым і пераможа — стане адзіным кандыдатам. Ахвотных не знайшлося.

Тады і адбылася камічная гісторыя «кандыдата». «Лукашэнка выклікаў сваіх магчымых супернікаў на выбарах на прабег даўжынёй 3 кіламетры, — узгадаў у інтэрв’ю радыё «Свабода» палітык Сяргей Скрабец. — Прычым сам ён бег на хуткасных лыжаролерах, а мы з Даньковым проста ў красоўках. Беглі ад Палаца Рэспублікі да Дома ўрада і назад. Лукашэнка прыбег першы, я другі. А з Юрам была цікавая гісторыя. Ён сышоў з дыстанцыі, цяжка яму было бегчы, але яго знайшлі праз тэлефон і фактычна прымусілі фінішаваць, каб быў яшчэ і трэці ўдзельнік прабегу».

Тады Данькоў зарэгістраваў мізэрную ініцыятыўную групу, у якую ўвайшло ўсяго 250 чалавек. Для параўнання, у лідараў сапраўднай апазіцыі было па 4 тысячы зборшчыкаў. Тым не менш, прыхільнікі Данькова здолелі прынесці ў ЦВК ажно 80 тысяч подпісаў.

Прааналізаваўшы пададзеныя ў ЦВК подпісы, пракуратура Мінска распачала крымінальную справу па артыкуле «службовая падробка» — такой колькасці фальшывых подпісаў не было ні ў аднаго іншага кандыдата. Гэтую гісторыю скарыстала прапаганда: вось, маўляў, як дзейнічаюць альтэрнатыўныя кандыдаты.

**Ягор Марціновіч**


Данькоў на лукашэнкаўскім забегу ў 2001.

# Топ-5 бізнэсмэнаў, якія траплялі ў няміласць

«Наша Ніва» ўзгадала нядаўнія гісторыі **іншых мільянераў**, стаўленне ўладаў да якіх змянялася з той ці іншай прычыны.

| Імя |  Яўген Шыгалаў |  Віктар Шаўцоў |  Ларан Арыніч |  Павел Белы |  Марат Новікаў |
|---|---|---|---|---|---|
| **Дзейнасць** | Дырэктар рынка «Ждановічы» | Гандляр зброяй, акцыянер «Трастбанка» і «Белзамежбуда» | Генеральны дырэктар «Пінскдрэва» | Намеснік дырэктара будаўнічай кампаніі «Тапас», хакеіст зборнай Лукашэнкі | Асноўны акцыянер кандытарскіх фабрык «Камунарка» і «Спартак» |
| **Год затрымання або вышуку** | 2008 | 2011 | 2012 | 2012 | На свабодзе |
| **Абвінавачванне або меркаванае абвінавачванне** | Нямэтавае выкарыстанне і захоп зямлі пад патрэбы рынку. | Крадзеж $10 мільёнаў падчас будаўніцтва ў Венесуэле. | Віна ў выбуху на вытворчасці драўляных паліўных гранул. | Нібыта яго западозрылі ў спробе вывазу за мяжу $6 мільёнаў (былі публікацыі пра гэта, але афіцыйнага пацвярджэння не было). | Нежаданне перадаць кантроль за фабрыкамі дзяржаве. |
| **Рашэнне** | Згодна з указам Лукашэнкі, атрымаў дазвол вярнуць у бюджэт $30 мільёнаў і выйсці на волю. | Па словах Лукашэнкі, будзе вызвалены пасля кампенсацыі стратаў дзяржавы ў падвойным ці патройным памеры. | «Пінскдрэў» нацыяналізаваны; крымінальная справа няскончаная праз уцёкі Арыніча з краіны. | Паводле непацверджанай інфармацыі, праз некалькі сутак пасля затрымання вызвалены. Лукашэнка неўзабаве заклікаў «не дэманізаваць багатых, калі яны сплачваюць падаткі». | Дзяржава праводзіць пазачарговыя сходы акцыянераў, спрабуючы павялічыць долю дзяржаўных акцый. |
| **Дзе цяпер** | Вярнуўся на ранейшую пасаду. | Мяркуецца, што застаецца пад вартай. | Затрыманы ў Польшчы, чакае экстрадыцыі ў Беларусь. | Вярнуўся на ранейшую пасаду. | Жыве ў ЗША. |

# Мінчукі душыліся за зніжкі ад «Віталюра»

**На адкрыцці рыбнага супермаркета сабраліся дзясяткі людзей.**

Да Дня горада ў мінскім мікрараёне Паўднёвы Захад адкрыўся новы супермаркет «Віталюр». І хоць найбліжэйшая крама гэтай самай сеткі праце літаральна за 500 метраў, не абышлося без цісканіны.

Нягледзячы на працоўны дзень, яшчэ да адкрыцця перад крамай сабраліся дзясяткі людзей, пераважна пенсіянераў, для якіх якасная рыба застаецца маладаступным далікатэсам. Магчыма, яны чакалі зніжкі на прадукты, аднак спецыяльныя дысконтныя карты атрымлівалі толькі тыя, хто купляў тавараў на 200 тысяч рублёў і больш.

У сетку крамаў «Віталюр» уваходзяць каля 25 крамаў, амаль усе яны знаходзяцца ў Мінску. Іх уладальнік бізнэсмэн Аляксандр Яцук зарабіў свой капітал на імпарце рыбы і морапрадуктаў. Таму і купляюць у «Віталюры» найперш рыбу, якая тут сапраўды найтаннейшая ў горадзе. Апроч таго, у крамах традыцыйна нізкія цэны на сокі і пechіва.

**ЯМ**




**Кошты ў «Віталюры»**

Скумбрыя і мінтай — 19900
Сёмга — 99500
Селядзец — 14150
Філе пангасія — 32200

## Сцісла

### Рэзервы растаюць

Золатавалютныя рэзервы Беларусі скараціліся за месяц на $90 мільёнаў. Цяпер яны складаюць $8,16 мільярда. Прычынай стала пагашэнне ранейшых замежных даўгоў. Апроч таго, Нацбанк патроху вяртае валюту, пазычаную ў камерцыйных банкаў пад заклад беларускіх рублёў.

### Даляр і еўра пайшлі ўверх

На фоне негатыўных паказчыкаў развіцця беларускай эканомікі пачалі расці курсы валют. За тыдзень кошык замежных валют падаражэў на 1,5%, а даляр дасягнуў свайго максімуму з пачатку года, падбіраючыся да мяжы 8500 рублёў.

### Беларускі шатландскі віскі

Брэсцкая філія Мінскага завода вінаградных вінаў пачала выпуск арыгінальнага шатландскага віскі Raeburn. Атрыманая прадукцыя будзе прадавацца, апроч нашай краіны, у Расіі і Казахстане.

### Купляйце айчынныя мабільнікі!

Міністэрства гандлю прыняло план па выпуску імпартазамяшчальных тавараў на 2013 год. У параўнанні з сёлетнімі паказчыкамі беларускія вытворцы павінны выпусціць у 10 разоў больш фотаапаратаў і мабільнікаў — па мільёне штук.

**ЯМ**

Як жывецца ў **прыгарадным панэльным раі**, дзе жыллё каштуе столькі ж, як і ў Мінску?

# Зялёны Бор: шматпавярховікі пасярод лесу


Рознакаляровыя шматпавярховікі і вялізныя двары нагадваюць Мінск, але маюць іншую атмасферу.

Аграгарадок Лясны, што на ўскраіне Бараўлянаў, цяпер усё часцей ўзгадваецца пад іншай назвай — Зялёны Бор. Квартал рознакаляровых панэльных дамоў стаў унікальнай сацыяльнай з'явай. Гэта недарагое жыллё для тых, каму не хапае ў Мінску свежага паветра, але пры гэтым не хочацца адмаўляцца ад выгодаў гарадскога жыцця.

Канцэпцыя знайшла сваіх прыхільнікаў. Ужо пабудавана і заселена 13 дамоў Зялёнага Бору, яшчэ два будуць дароблены налета. На гэтым квартал будзе закончаны. А забудоўшчык, кампанія А-100, вядомая беларусам па сетцы аднайменных запрапавак, ужо працуе на наступнай пляцоўцы. У кіламетры ад МКАД, каля аграгарадка Сенніца, пачалося будаўніцтва панэльнага квартала Залатыя горкі.

### Недасяжны Бор

Зялёны Бор знаходзіцца ў 6 км ад МКАД, у лагойскім накірунку. На аўтамабілі гэтая адлегласць пралятае незаўважна за 5 хвілін. А вось з грамадскім транспартам сітуацыя горшая. Прамы гарадскі аўтобус №143 паўзе 25 хвілін да вуліцы Карбышава, ад якой яшчэ столькі ж дабірацца да бліжэйшай станцыі метро. Уначы ж застаецца толькі перспектыва ехаць на таксі. За паездку ад цэнтра Мінска давядзецца выкласці не менш за 100 тысяч рублёў.

### Без ільготнікаў

Сям'я Алены жыве ў квартале ўжо тры гады, але сваю аднапакаёўку яны купілі раней. «Мы доўга вагаліся, ці пераязджаць сюды. Бацькі адгаворвалі, але мы рызыкнулі і цяпер не шкадуем. Першыя дамы, сярод іх і наш, здалі ў канцы 2007. Гэта было нават да першай дэвальвацыі, калі кошты на жыллё былі шалёныя, — узгадвае яна. — Мы плацілі за квадратны метр трохі менш за $1500, прычым без усялякіх льготных крэдытаў. Як аказалася пазней, пераплацілі... Цяпер пры ўсім жаданні за столькі кватэру не прадасі».

Адсутнасць ільготнікаў — адна з асаблівасцяў квартала, якая радуе жыхароў. «Няма ні шматдзетных сем'яў, ні міліцыянтаў. Усе будаваліся за свае грошы, таму і адчуваюць адказнасць за жыллё», — падтрымлівае размову яе муж.


Крытая веластаянка.


У новабудоўлі вокны будуць выходзіць на лес.

### Любы капрыз за вашы грошы

Той, хто прыязджае ў Зялёны Бор у госці, не можа не заўважыць ідэальную чысціню ў дварах. Акуратныя арэлі, чыстыя пясочніцы, горкі для маленькіх... І пры гэтым ніводнага бычка ці выкінутай пластыкавай бутэлькі. Гэта заслуга мясцовага таварыства ўласнікаў, найбуйнейшага ў краіне — у дамах Зялёнага Бору жыве 5000 чалавек. Ці задаволеныя жыхары якасцю паслуг?

«Мы плацім прыблізна на 25—30% больш, чым бацькі ў мінскай кватэры, якія абслугоўваюцца ЖЭСам, — кажа Алена. — Хоць наракаць не застаецца. Напрыклад, за ўступленне ў таварыства трэба заплаціць амаль 3 мільёны рублёў — нямала. Але ўсім не дагодзіш».


На пляцоўцы заўсёды шмат дзяцей.

### Смецце пад замком

Абыходзячы квартал, звяртаю ўвагу, што каля кожнага дома знаходзіцца дзіўнае крытае драўлянае збудаванне. Задумваюся, для чаго яно патрэбнае, як каля яго спыняецца джып. Сталы мужчына ў дарагім гарнітуры выносіць з салона два пакеты са смеццем, адкрывае брамку і раскідвае пакеты па кантэйнерах. Аказваецца, таварыства ўласнікаў вырашыла адмовіцца ад смеццеправодаў. Жыхары не лянуюцца спусціцца з пакетам у двор. А сцены збудавання не дазваляюць ветру разносіць смецце па двары.

Каля дамоў знаходзяцца і крытыя велапаркоўкі. Арэнда месца каштуе каля 30 тысяч рублёў штомесяц. Са стаянкамі для аўтамабіляў праблемы таксама няма, што адрознівае Зялёны Бор ад усіх мінскіх спальных раёнаў. Месцаў хапае для ўсіх, у крайнім выпадку машыну можна пакінуць каля супермаркета на выездзе з квартала.

### Лес пад бокам

Дзе праводзяць свабодны час жыхары Зялёнага Бору — адно з самых нявыгадных пытанняў падчас дыскусіі, ці варта перасяляцца ў прадмесце. Варыянтаў насамрэч няшмат. Можна бавіцца з дзецьмі на пляцоўцы. Дарэчы, пляцоўка праглядаецца камерамі відэаназірання, карцінку з якой можна глядзець на хатнім камп'ютары. Іншы варыянт — шпацыраваць па лесе. Літаральна за 50 метраў ад квартала знаходзіцца адгароджаны металічнай сеткай заказнік «Прылепскі». Праз некалькі ўваходаў у яго пастаянна выбягаюць у лес сабачнікі. Для іх гадаванцаў тут сапраўдны рай. Дагледжаныя дарожкі, пляцоўкі для пікнікоў — усё ёсць.

### Абслугоўванне ў Бараўлянах

Што да іншай інфраструктуры, то маладым бацькам застаецца хапацца за галаву. «Запісацца ў дзіцячы садок нерэальна, таму штораніцы возім дзяцей у Мінск, — кажа іншая жыхарка, маці двух дзяцей Аксана. — Нібыта збіраліся будаваць яшчэ адзін садок на тэрыторыі квартала, але мы асабліва не разлічваем на яго, бо разумеем, што сюды набягуць бацькі з чаргі ў суседніх Бараўлянах».

Са школамі сітуацыя выглядае лепш. Мясцовая школа хоць і запоўненая амаль цалкам, новых вучняў прымае, ёсць і нядаўна пабудаваная элітная школа ў Бараўлянах. На ўсялякі выпадак можна прыгадаць і славутую «Коліну» школу ў Астрашыцкім гарадку. Ад Зялёнага Бору датуль каля 5 км.

«Мы адносімся да раённай паліклінікі ў Бараўлянах, — працягвае Аксана. — Самі разумееце, што ўсёй плыні хворых з прыгарадаў Мінска яны не даюць рады. Хоць апаратура сучасная і дактары якасныя».

### Кватэра на ростанях

Рознакаляровыя дамы хоць і выглядаюць звонку прыгожа і сучасна, з'яўляюцца тыпавымі панэлькамі. Ці каштуюць яны тых $980, якія просіць за іх забудоўшчык, пытанне рытарычнае. Даплаціўшы каля $5000, можна знайсці новабуд у межах Мінска з развітай інфраструктурай, прычым не абавязкова ў панэльным доме. На другасным рынку кошт квадратнага метра ў Зялёным Бары складае $1200, што таксама не адрозніваецца ад сталічных цэнаў.

Тутэйшыя малыя кватэры можна разглядаць як пачатковае прамежкавае жыллё, каб пасля замахнуцца на большае. Зялёны Бор дапаможа вызначыцца, ці вас пацягне назад у горад, ці захочацца ўласнага катэджа.

**Ягор Марціновіч**

# У судзе прагучыць «інтымная інфармацыя»

Экс-начальніка сакратарыята савета рэспублікі **Глеба Бядрыцкага** пачалі судзіць 10 верасня.

Суд зрабілі закрытым па ініцыятыве пракурора. Маўляў, у справе прысутнічае інтымная інфармацыя, якая тычыцца абвінавачанага. Адвакат і сам Бядрыцкі настойвалі, каб на працэсе маглі прысутнічаць усе жадаючыя. Але суддзя Таццяна Тупік падтрымала пракурора.

Адна з непацверджаных версій арышту чыноўніка — размеркаванне прэмій. Нібыта начальнік сакратарыята выпісваў вялікія сумы для заахвочвання сваіх «любімчыкаў», сярод якіх былі і жанчыны. Такая версія бачыцца магчымай у святле таго, што на працэсе будзе агучана акурат «інтымная інфармацыя».

У функцыі Бядрыцкага на высокай пасадзе, акрамя тэхнічных (кантроль за выкананнем абавязкаў структур сакратарыята, зацвярджэнне графікаў адпачынкаў), уваходзіў менавіта кантроль за грашыма. Ён не толькі прадстаўляў матэрыялы для прэміравання, але мог распараджацца маёмасцю і фінансамі сакратарыята, вырашаў пытанні выдачы іншых грашовых выплат супрацоўнікам.

Чыноўнік быў затрыманы 19 кастрычніка 2011: нібыта людзі ў масках уварваліся ў яго кабінет. Ён абвінавачваецца па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі» і «Злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі».



Апошні раз людзей у масках у сценах парламента бачылі, напэўна, у 1996, калі яны выносілі з будынка дэпутатаў ад апазіцыі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Глеб Бядрыцкі (злева) быў непублічнай асобай і ў аб'ектывы фотаапаратаў фактычна не трапляў.

Ананімная крыніца паведаміла «НН», што справу Бядрыцкага ўскладняе яго прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі, напісанае ў ліпені. Тым самым ён прызнаў сябе вінаватым. Бядрыцкі разлічваў на заступніцтва з боку высокіх чыноўнікаў, з кім працаваў, як адказ на сваю адданую працу. Але нібыта ніхто яго не падтрымаў. У дадатак, прашэнне Лукашэнка не задаволіў. І цяпер экс-чыноўніку не з рукі адмаўляць сваю віну.

Глеб Бядрыцкі нарадзіўся 27 студзеня 1974 у Наваполацку. У 1996 скончыў Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію па спецыяльнасці «прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва», у 2000-м — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце па спецыяльнасці «сусветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя адносіны». Працаваў у Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва, пасольстве Беларусі ў Германіі, апараце Савета міністраў. Пасаду начальніка сакратарыята савета рэспублікі заняў у верасні 2003. Гэта значыць, літаральна праз два месяцы пасля таго, як у апазіцыю перайшоў тагачасны кіраўнік верхняй палаты парламента, акадэмік Аляксандр Вайтовіч. Мусіць, тады ў пэўных структурах зразумелі, што прагапілі Вайтовіча і што кантроль над палатай трэба «ўзмацняць».

Глеб Бядрыцкі не быў публічнай асобай. Яго роля ў савеце рэспублікі не прадугледжвала і кантактаў з прэсай. Складана не толькі адшукаць звесткі пра яго, але і яго самога на фотаздымках нават з афіцыйных мерапрыемстваў. Вядома, што ён жанаты, мае двух непаўналетніх дзяцей: 11-гадовую дачку і 4-гадовага сына. За сваю працу ўзнагароджаны трыма медалямі, некалькімі граматамі Савета міністраў Беларусі, мае шэраг падзякаў.

Месца Бядрыцкага на пасадзе начальніка сакратарыята савета рэспублікі нацыянальнага сходу заняў Сяргей Бервін.

**Сяргей Макарэвіч**

# Пяць смерцяў у адным аўто

Ля Белавежы **разбілася «БМВ»** з моладдзю.

8 верасня маладая кампанія трапіла ў аварыю на аўтадарозе Пясчатка—Камянец. «БМВ-320» вылецеў у кювет і некалькі разоў перавярнуўся. На новай трасе «Абыход нацпарку «Белавежская пушча» кіроўца выбраў небяспечную хуткасць. У выніку аварыі чатырох пасажыраў выкінула з аўтамабіля. Яны загінулі на месцы, а іх целы знайшлі на рознай адлегласці ад месца здарэння. Калі прыехалі супрацоўнікі ДАІ, 16-гадовая дзяўчына, якую зацiснула ў салоне, была яшчэ жывая. Але па дарозе ў бальніцу яна памерла.

Сярод загінулых таксама трое хлапцоў і дзяўчына. Усе — жыхары Камянецкага раёна.

Жывым застаўся толькі кіроўца, які пасля аварыі самастойна выбраўся з аўто і дайшоў да дарогі. Там яго падабралі і адвезлі ў Камянецкую бальніцу. У маладога чалавека — чэрапна-мазгавая траўма, унутрыбрушны крывацёк. Яго прааперавалі, але стан застаецца стабільна цяжкім. Кіроўца быў цвярозым і прышпіленым рэменем бяспекі.

Па факце аварыі завялі крымінальную справу па артыкуле «Парушэнне правілаў дарожнага руху альбо эксплуатацыі транспартных сродкаў, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць двух і больш асобаў».

Трасу «Абыход нацпарку «Белавежская пушча» адкрылі нядаўна. Кіроўцы наракаюць, што дарога надта звілістая. А паколькі пакрыццё новае, то не кожны ўстрымліваецца, каб добра не разагнацца.



**КМ**

# Экс-кіраўніка БРСМ закрылі на 7 гадоў

6 верасня вынеслі прысуд былому **намесніку старшыні Віцебскага аблвыканкама**.

Леаніда Кавалёва асудзілі на сем гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў тэрмінам на пяць гадоў. Суддзя падтрымала патрабаванне пракурора, пра што мы пісалі ў №32. Вядома, што канфіскацыі ў Кавалёва падлягае кватэра ў Брэсце, аўтамабіль «Нісан», грошы з яго банкаўскага рахунка.

Суд прызнаў Кавалёва віна-ватым у атрыманні хабару ў памеры 2500 еўра за прадастаўленне выключнага права арганізоўваць феерверкі на масавых мерапрыемствах Віцебшчыны канкрэтнаму бізнэсоўцу.

Другі фігурант справы, грамадзянін Эстоніі Гунар Каал, асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Па версіі следства, менавіта эстонец вымагаў хабар у бізнэсоўца і перадаў грошы Кавалёву.

Абодва сябе вінаватымі на судзе не прызналі. З улікам амністыі тэрміны зняволення кожнаму зменшылі на адзін год.

**СМ**

## Сцісла

### Разбойны напад на таксістку

Уначы 5 верасня ў сталічную міліцыю звярнулася 21-гадовая кіроўца таксі. Жанчына сказала, што двое невядомых, пагражаючы нажом, забралі ў яе 80 даляраў, 800 тыс. рублёў і пяць залатых ювелірных вырабаў. Устаноўлена, што злачынства здзейснілі двое беспрацоўных: 17-гадовы раней судзімы за рабаванні і крадзяжы жыхар Віцебска і 20-гадовы раней судзімы за крадзяжы і хуліганства жыхар Бабруйска. Падазраваныя затрыманыя і змешчаны ў ІЧУ.

### Гвалтаваў падчарку

Завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 32-гадовага жыхара Гомеля. Устаноўлена, што мужчына ад лета 2011 да вясны 2012 гвалтаваў сваю 14-гадовую падчарку, пагражаючы расправай і ўжываючы да яе фізічную сілу. У міліцыю звярнулася маці дзяўчынкі. Абвінавачаны не адмаўляе факт учыненых ім злачынстваў, у тым ліку крадзяжы ў суседняй вёсцы. Справа накіравана ў суд.

### Затрымалі кантрабандны сэканд-хэнд

У пункце мытнага афармлення «Брэст-Паўночны» затрымалі партыю адзення, абутку, спортінвентару на суму звыш 2 млрд рублёў — сем тысяч адзінак дзясяткаў найменняў. Кантрабандны тавар выявілі ў 20-тонным кантэйнеры, які перавозілі з Германіі ў Казахстан праз Беларусь. Рэчы, якія знаходзіліся ва ўжытку, не былі заяўленыя ў дакументах альбо перавышалі задэклараваную колькасць. Тавар канфіскаваны.

### Напалі з-за нетрадыцыйнай арыентацыі хлапца

Віталю Гуляку, на якога ў Мінску напалі так званыя паляўнічыя на геяў, адмовілі ў завядзенні крымінальнай справы. Сярод нападнікаў высветлілі асобы чатырох чалавек. Яны прызналіся, што «канфлікт узнік з-за нетрадыцыйнай арыентацыі Гуляка». Але ўчастковы не ўгледзеў у іх дзеяннях злачынства, якое падпадае пад артыкул "Хуліганства". Дзецюка, які біў Гуляка па твары фалаімітатарам, прыцягнуць толькі да адміністратыўнай адказнасці.

**КМ**

# Зміцер Бандарэнка вырашыў не вяртацца ў Беларусь

Паплечнік Саннікава **пастапіў на праграму Каліноўскага.**

Пра гэта былы палітвязень Дзмітрый Бандарэнка заявіў у інтэрв’ю charter97.org. «Я прыняў рашэнне не вяртацца ў Беларусь. Лічу, што існуе рэальная пагроза майго новага арышту. Вы бачыце, што сёння адбываецца ў краіне. Маё вяртанне стане магчымым толькі ў выпадку вызвалення ўсіх беларускіх палітвязняў, зняцця судзімасцяў і нашай поўнай рэабілітацыі».

Бандарэнка з ліпеня знаходзіўся ў Польшчы. Там жа жыве ягоная дачка Юлія. Бліжэйшыя два гады Бандарэнка мае намер вывучаць паліталогію па праграме паслядыпломнай адукацыі.

У Варшаве цяпер знаходзіцца рэдакцыя сайта «Хартыя-97». З краіны пасля выбараў 2010 былі вымушаныя з’ехаць многія паплечнікі Саннікава — Наталля Радзіна, Уладзімір Кобец, Зміцер Бародка і інш.

Жонка Андрэя Саннікава Ірына Халіп сказала, што былы кандыдат у прэзідэнты не збіраецца з’язджаць з краіны. Цяпер Андрэй Саннікаў папраўляе здароўе ў Літве.

**ЗП**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




**Фотафакт**

**Так заўзелі за зборную Беларусі па футболе ў Тбілісі. На жаль, хлопцы падвялі — пройгрыш 0:1. Саступілі нашы і праз чатыры дні ў Парыжы. Францыя была мацней — 3:1.**

## Лазавік трапіў у аварыю праз бландзінку

Сакратар ЦВК і яго кіроўца **не пацярпелі**.

Аварыя здарылася 5 верасня на ўнутраным коле мінскай кальцавой, недалёка ад з’езда ў бок Ждановічаў. У машыне знаходзіўся сакратар ЦВК Мікалай Лазавік

«ДТЗ дастаткова, як я лічу, «дзіцячае», — сказаў Лазавік. — Ехалі па ўнутраным коле, а за намі на сваёй машыне — сімпатычная дзяўчына-бландзінка. Ці то яна страціла ўвагу, ці то вусны падфарбоўвала — я не ведаю, але ў выніку нямоцна сутыкнулася з нашай машынай. Пабіла фару, потым — урэзалася ў адбойнік і пазбавілася яшчэ адной».

«З нашай машынай нічога страшнага не здарылася, — гаварыў далей Мікалай Іванавіч, — усяго пара драпін. Далей мы выклікалі ДАІ і ўсё афармілі ў адпаведнасці з законам».

Сакратар Цэнтрвыбаркама і яго кіроўца падчас сённяшняга ДТЗ на МКАД не пацярпелі. Іншая ўдзельніца, дзяўчына-кіроўца, таксама толькі трохі спалохалася.

**ЛМ**


PHOTO.BYMEDIA.NET



## Азаранка прайграла фінал US Open

Але застаецца **першай ракеткай** свету.

Вікторыя Азаранка — Серэна Уільямс — 2:6, 6:2, 5:7. Вікторыя ўчыстую прайграла першы сэт, бліскуча выйграла другі, узяўшы дзве падачы. У трэцім вяла 5:3, але саступіла.

Матч у Нью-Ёрку працягваўся 2 гадзіны 18 хвілін. Серэна Уільямс стала пераможцай US Open, але Вікторыя застаецца першай ракеткай свету.

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Танкавая атака

На мінулым тыдні Міністэрства абароны пасля адмовы баранавіцкіх уладаў усё ж такі ўцягнула танк «ІС-3» на пастамент у горадзе Ваўкавыску.

Але навошта? Навошта палкоўнікам ды генералам такі цяжкі клопат? Каб народ не забываўся пра вайну, а моладзь адчувала наплыў патрыятычных пачуццяў? Так, яны тлумачаць свае безупынныя выхаваўчыя намаганні менавіта гэтым. Між тым, не здольны патлумачыць нават тое, чаму ці каму паставілі гэты помнік. Ці то вызваліцелям Ваўкавыска ў ліпені 1944, ці то самому танку «ІС-3», які, дарэчы, амаль не ваяваў, ці то ўсім танкістам... А мо хочуць хаця б такім чынам ушанаваць «ІС» — Іосіфа Сталіна?..

У мяне ёсць свая версія, пакінутая светлай памяці стрыечным братам Мікалаем.

Упершыню я ўбачыў Мікалая ўвесну 45-га, калі ён завітаў да сваёй маці, маёй цёткі Надзі ў Мінск. Я з захапленнем глядзеў на ягоныя старшынскія, літарай «Т», наплечнікі, мацаў бліскучы ордэн ды звонкія медалі. І не разумеў, чаму плача цётка Надзя, калі кожны вечар, перад сном, крыж-накрыж абвязвае Мікалая бялюткім бінтом. Мне, чатырохгадоваму, здавалася, што гэта нейкая гульня, бо я, памятаю, прасіў, каб яна перакрыжавала і мяне, таксама па-геройску параненага... Пакойчык поўніўся вострым пахам нейкіх лекаў, Мікалай стагнаў, але на маё патынне, ці балюча, падміргваў і моўчкі ўздымаў вялікі палец... Пазней я даведаўся, што завітаў ён да маці са шпіталя, па дарозе ў Харкаў, дзе яго чакала Галя, любая па ліставанню дзяўчына. На развітанне ён узяў ліст паперы, каляровыя алоўкі, што прывёз мне ў падарунак, і намаляваў танк. Як зараз я бачу той імклівы танк — зялёны, з чырвонай зоркай і гарматай, адкуль вылятае чорны снарад... Трохі падумаўшы, Мікалай зноў падсунуў да сябе паперу і дамаляваў чырвона-жоўтую пляму: «А вось так танкі гараць...»

Мікалай гарэў у танку недзе за Одэрам.

Усё астатняе жыццё ён пражыў у Баку, здабываў нафту, гарэў і на свідравальнай, на пенсіі падаўся ў пажарныя, мусіць, дрэнна ставіўся да агню...

Кожны год, пакуль жыла маці, Мікалай прыязджаў у Мінск, няспынна цытаваў «Новую зямлю» і амаль кожную раніцу ездзіў збіраць грыбы ў Коласава, у знакаміты грыбны лес. «Не надакучыла? — спытаў я аднойчы. — Вось так, кожны дзень...» «Ціха там, разумееш, ціха...»

У 91-м ён прыехаў у жніўні і, пачынаючы з 19-га, тры дні праседзеў, забыўшыся пра грыбы, ля тэлевізара, моўчкі глядзеў, як пруць на Маскву танкі...

Напрыканцы кастрычніка 93-га прыйшоў ліст з Баку. «У нас вялікае гора, — паведамляла Галя, — Коля павесіўся, не пакінуў нават ніякага пісьмовага тлума-

### «А вось так танкі гараць...» »

чэння. Апошнія гады, праўда, адразу пасля бакінскіх падзей, стаў нейкім замкнёным, вельмі перажываў распад Савецкага Саюза, гаварыў, што ўжо немагчыма будзе ездзіць да маці і ў грыбы...»

Узрушаны, я некалькі разоў перачытаў ліст і раптам зразумеў: ён паглядзеў па тэлевізары, як танкі паляць у Маскве па Беламу дому...

Дык навошта палкоўнікам ды генералам новыя, у дадатак да амаль ужо сарака існуючых, помнікі з танкаў? Яны што, напішуць на пастаментах, што вось гэты танк паліў у 1956 у Будапешце па ўгорцах, вось гэты ў 1968 душыў чэхаў у Златай Празе, вось гэты — літоўцаў у 1991, а вось гэты толькі і чакаў загаду дайсці хуткім маршам аж да Ла-Манша?..

Свядома ці падсвядома палкоўнікі ды генералы ідуць у сваю «танкавую атаку», каб доўжыць так званы «савецкі патрыятызм» кшталту гатоўнасці «легчы пад танкі»; каб навечна зацвердзіць пагрозлівы для незалежнасці Беларусі напамін аб нібыта моцнай дзяржаве, якая існавала і ўтрымлівалася на трагічных лёсах людзей, народаў і цэлых краін.

Мушу думаць, што для тых, хто сапраўды гарэў у танках на войнах той дзяржавы, такі сталёвы напамін будзе, па сутнасці, гістарычнай абразай. Для моладзі — ваяўніча-хлуслівым уяўленнем пра моц імперыі, у якой Беларусі было быццам бы сытна, цёпла і недасягальна для ворагаў. А для дзяцей — небяспечным уяўленнем пра вайну, на якой гінуць толькі ворагі і гараць толькі варожыя танкі...

На цырымоніі ў Ваўкавыску міністр абароны Жадобін з гонарам паведаміў, што міністэрства вырашыла працягнуць традыцыю ставіць помнікі з танкаў. Такім чынам, ёсць пагроза, што ў краіне ўвогуле не застанецца вялікіх і малых гарадоў, дзе на плошчах ды перакрыжаваннях не стаялі б гэтыя страшыдлы, дэманструючы сваю нікому не патрэбную моц.

*kamerton_41@mail.ru*

# Колькі можа зарабіць за ноч нелегальны таксіст?

Як **мінімум 400 тысяч** рублёў — журналіст праверыў гэта на сабе.



Карэспандэнт «НН» правёў ноч за рулём.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пра вялізныя заробкі таксістаў, асабліва нелегальных, ходзяць легенды. Гэтыя людзі займаюць самыя прыбытковыя месцы ў сталіцы і выстаўляюць адвольныя кошты за свае паслугі. Напрыклад, з'ехаць з аэрапорта каштуе ў іх 500 тысяч рублёў! Прытым што да горада ехаць каля 30 км... А «п'яны тарыф» ад клуба DoZaRi ў цэнтры Мінска ў спальны раён можа дасягаць 150—200 тысяч — у залежнасці ад выгляду пасажыра і прадстаўнічасці аўтамабіля таксі.

Знайсці каля клубаў, рэстаранаў ці ў тым жа аэрапорце легальнага таксіста, які павязе вас па тарыфах службы, надзвычай складана. Навесці парадак у гэтай галіне дзяржава не рашаецца. Спрыяюць гэтаму і дзіркі ў законах. Транспартная інспекцыя, якая створаная для выяўлення парушэнняў пры перавозках, займаецца толькі легальнымі таксістамі. А з нелегаламі мусіць змагацца падатковая інспекцыя. Правёўшы спецаперацыю з падсадкай кліента, яна можа ў найлепшым выпадку выпісаць штраф ад 1 да 5 мільёнаў рублёў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Такія сумы нелегалаў не палохаюць.

### Любы выходны — свята для таксіста

Колькі ж зарабляюць гэтыя няўлоўныя кіроўцы? Вырашаю праверыць гэта на сабе. 8—9 верасня ў Мінску якраз святкуецца Дзень горада. Тысячы мінчукоў вяртаюцца з салюта, многія нападпітку. А як дабрацца дадому, калі грамадскі транспарт перастане хадзіць?

Выязджаю ў цэнтр горада а 22.00. Удалечыні бліскаюць святочны феерверк, а я пачынаю пошукі першага кліента. «Паспрабуй стаць у чаргу каля хлебнага месца, — раіць знаёмы таксіст. — Нелегалаў адтуль звычайна не гоняць. Пастаіш з паўгадзінкі і атрымаеш кліента». Аднак усе папулярныя месцы перапоўненыя таксоўкамі. Каля стэлы «Горад-герой Мінск» з дзясятак машын, на Нямізе — яшчэ сем. Разумею, што станавіцца ўслед за імі неразумна, і пераходжу да іншай стратэгіі, «патрулявання» вуліц.

### Чароўная «Спартыўная»

На мінімальнай хуткасці катаюся па крайняй правай паласе вуліц і праспектаў і чакаю ўскінутай рукі пасажыра. І вось першы поспех. Каля станцыі метро «Спартыўная» мяне знаходзіць першы кліент. «Колькі будзе да вакзала?» — «Колькі заплаціце!» За 6 км дарогі пазітыўны малады чалавек паспявае распытаць пра перспектывы беларускай мовы і нават пра сэнс байкоту. Напрыканцы ён дастае 30 тысяч: «Дастаткова?» У кішэню маглі б пакласціся першыя зароблены грошы, але я адмаўляюся.

Пакуль працуе грамадскі транспарт, шанцаў злавіць пасажыра мала. Аб'язджаючы раён за раёнам, не бачу ніводнага ахвотніка. Вырашаю вярнуцца на ўдалую для мяне «Спартыўную». Праз дзесяць хвілін дзверы машыны адкрывае мужчына ў гарнітуры. «На Паўднёвы Захад паедзем?» Нешматслоўны пасажыр не пытаецца пра цану, таму вырашаць, колькі грошай у яго прасіць, даводзіцца ў канцы падарожжа. На адометры 7 км, таму разлічваю яго па тым жа тарыфе, што і першага пасажыра, — 5 тысяч рублёў за кіламетр. Такім чынам, плюс 35 тысяч рублёў маглі б легчы ў касу.

### На шляху да Варвары

Рушу далей. У Брылевічах насустрач машыне кідаецца мужчына нападпітку. З яго прамовы можна зразумець, што ён хоча паехаць да вельмі прыгожай дзяўчыны Варвары ў Серабранку, але не можа з'явіцца з пустымі рукамі, таму нам спачатку трэба заехаць у любую краму, якая працуе дапазна. Ідэальны кліент для нелегала! Мужчына не надта арыентуецца ў прасторы, таму яму можна будзе выставіць любы рахунак.

«Як думаеш, яна мяне не выганіць?» — штохвілінна пытаецца ён і сам сабе адказвае: «Выганіць, відаць... Але я ж яе кахаю!» Аказваецца, што пасажыр — а яго клічуць Валерам — творчы чалавек: мастак і фатограф. Ён спрабуе перайсці на беларускую мову, каб зрабіць мне прыемна, але пастаянна вяртаецца на расейскую, каб папрасіць за гэта прабачэння яшчэ раз. «Наша Ніва»? Дык гэта мой любімы сайт», — прызнаецца ён. Аднак асаблівае захапленне ў яго выклікае беларускае слова «перашкода», якое гучыць дзе трэба і дзе не трэба. Трапіўшы ў гіпермаркет, ён на паўгадзіны паралізуе працу касы. То бегае абмяняць піцу, то ўзгадвае, што забыўся ўзяць сокі, а ўрэшце разумее, што ў яго не хапае грошай, таму трэба шукаць абменнік.

А палове на другую, наматаўшы 17 км, мы ўсё ж даязджаем да Серабранкі. Аднак браць шмат грошай з Валеры не хочацца. Улічваючы змарнаваны час у гіпермаркеце, прашу ў яго 120 тысяч. Ён аддае гэтую суму і $1 зверху. «Ты не ўяўляеш, якая Варвара прыгожая. Але не падумай нічога такога, мы толькі пачынаем сустракацца!» — кажа ён на развітанне. Усміхаюся ў адказ і адмаўляюся ад грошай. Спадзяюся, у іх усё атрымаецца.

### Ступень п'янства

Неўзабаве даводзіцца адмовіцца ад кліента. Праязджаючы міма Траецкага прадмесця — добрае месца для пошуку пасажыраў, — спыніўся па ўзмаху рукі маладога хлопца. Ён закрычаў убок: «Цягніце Серага, тачка ёсць!» Аднекуль збоку двое яго сяброў павалаклі ўшчэнт п'янага трэцяга, які зусім не трымаўся на нагах. Чакаць, пакуль яго канчаткова ўгайдае ў салоне, а пасля прыбірацца за ім, не хацелася.

Праязджаючы па праспекце Незалежнасці, звяртаю ўвагу на дзясяткі таксовак каля клуба DoZaRi. Яны стаяць на дзвюх палосах праспекта, цалкам ігнаруючы правілы дарожнага руху, і чакаюць багатых кліентаў. ДАІ на гэтую карцінку заплюшчвае вочы.

А мне ўдаецца падхапіць кампанію, якая выходзіць з клуба ля Камароўкі, — двух цвярозых кавалераў і іх дзвюх дзяўчынак нападпітку. Апошнія хіхікаюць усю дарогу, прычым іх весяліць абсалютна ўсё — ад чырвонага колеру на святлафоры да дажджу за акном. «А давайце разгонімся да 100 кіламетраў!» — просіць мяне адна з дзяўчын. Хлопец асаджае яе: «Не перашкаджай». «Зая, а давай заедзем у начнік, а то ў нас у бары пуста! Ну калі ласачка...» — пераключаецца яна на яго. Кампанія шчабеча ўсю дарогу, таму размовы не атрымліваецца. Адвёз іх на Паўднёвы Захад, за што мог атрымаць 65 тысяч.

### Плаціць ці не плаціць?

На суседняй вуліцы новы заказ. Хлопец з дзяўчынай на дыскатэцы патрацілі ўсе грошы і цяпер развакаюць, як ім дабрацца дахаты на Сярова. «За колькі давезяце?» — перамовы вядзе дзяўчына. «Колькі заплаціце!» — «Тады, можа, за 30 тысяч?» — какетнічае яна. Дарога няблізкая, але пагаджаюся, не гандлюючыся. Тлумачу, што праводжу сацыяльны эксперымент. «Дык вы шмат не заробіце, калі самі цану не будзеце называць», — разважае хлопец. «У тым і сутнасць, каб пасажыры самі вызначалі», — тлумачу я. «А я магу прыехаць і не заплаціць вам ні рубля?» — «Вашае права» — «Прыкольна...»

На гадзінніку тым часам тры гадзіны ночы, і горад нібы вымірае. Да сну пачынае хіліць і мяне. Аб'ехаўшы на ўсялякі выпадак яшчэ некалькі раёнаў, спыняюся на стаянцы, каб падрамаць. Пералічваю ўяўную выручку — пакуль 290 тысяч рублёў. Праз гадзіну рушу далей.

### Кліент на кліента не выпадае

Каля «Пушкінскай» да дарогі, галасуючы, выходзіць хлопец. Пакуль збочваю да яго, бачу ўбакавыя люстэркі, што ўслед за мной да яго кінуліся яшчэ дзве машыны. Аднак кліент мой. Яму трэба ва Уручча. Пра цану хоча дамовіцца адразу. «70 тысяч!» — прапаную я. Пасажыр згаджаецца. Едзем моўчкі, неўзабаве ён засынае. Урэшце аказваецца, што яму патрэбна нават крыху далей, у Вайсковы гарадок — агулам 20 км! Але атрымаць ад яго змог бы толькі 50 тысяч, бо іншых купюр у яго няма.

Затое апошні кліент падняў настрой. Колькі каштуе даехаць ад вакзала да Харкаўскай? Пакуль думаю, папрасіць 20 ці 30 тысяч рублёў за 5 км, мітуслівы пасажыр, які вярнуўся з Магілёва, сам прапануе: «За 50 тысяч давезяце?».

### Чысты прыбытак — 320 тысяч

Тым часам у сталіцы світае. На вуліцы выязджае грамадскі транспарт, а значыцца, шанцаў знайсці новых пасажыраў у мяне менее з кожнай хвілінай. Таму еду дамоў спаць. У канцы шляху падводжу начную бухгалтэрыю. Такім чынам, сямёра кліентаў маглі заплаціць мне амаль 400 тысяч рублёў. Калі адкінуць выдаткі на паліва, застаецца 320 тысяч чыстага прыбытку — з невысокімі тарыфамі і адсутнасцю «блату» ў клубах і гатэлях. Але сапраўдны нелегал менш чым за 50 тысяч не паедзе нікуды, таму і зарабляе больш. Пры поўным бяздзеянні падаткавікоў яны зарабляюць свае паўмільёна, а то і мільён за ноч выходнага дня.

**Віталь Несцераў**

# Дубы Максіма

**Экскурсія ў Пількаўшчыну,** на радзіму паэта.



Паліцыя наляцела раптам. Жэня не паспеў і з хаты выскачыць: яго вывалаклі на двор, пад пасаджаны бацькам дуб, і на вачах у маці і малодшага брата білі прыкладамі. Пасля, прывязаўшы вяроўкай да фурманкі, пагналі коней каля лесу... Маці кінулася следам з крыкам: «Паночкі, пусціце яго! Ён нічога благога не рабіў!» Ляцела, пакуль не ўпала. Юнака, што валокся за фурманкай, чакала турма ў Вільні і слава. У вялікім свеце, куды вывозіла Жэню з роднай Пількаўшчыны паліцыя, яго чакала новае імя — Максім Танк. У Вільні, акрамя вязніцы, яго чакала каханне на ўсё жыццё і першая паэтычная кніга, якая зробіць яго славутым. Быў і начны пераход праз мяжу, выгнанне з савецкага раю назад у заходнебеларускае пекла. Шчаслівае выгнанне: усіх каго не выгналі, забілі ў Курапатах у 1937-м. Яшчэ яго чакалі грошы, кватэры, дачы, прывілеі, пасада старшыні Вярхоўнага Савета. І могілкі ў роднай вёсцы: ён забараніў хаваць сябе на паложаных па разнарадцы сталічных.

«Творы Танка — гэта лавіна, якая парывае ўсіх, трасе ўсім і ламае ўсё», —- пісаў пра яго ў 1936-м заходнебеларускі друк. «На этапах», «Пад мачтай», «Журавінавы цвет» — Танк стаў голасам Заходняй Беларусі, бо ставіў самыя вострыя для свайго народа пытанні: нацыянальнага вызвалення і сацыяльнай справядлівасці. Ён быў перакананым камуністам эпохі Народных Франтоў, захопленым Савецкім Саюзам, якога шакавала праўда пра Савецкі Саюз. А пасля 1937-га жыццё проста несла яго, каб ён фізічна выжыў.

З гадамі да вастрыні і магутнай вобразнасці Танка дадалася яшчэ і філасафічнасць.

**Адкуль Пількаўшчына**

Людзі прыйшлі на гэты балотны востраў у пачатку XIX стагоддзя, калі выраслі сем'і і не стала хапаць зямлі ў суседніх Новіках. Там, дзе сёння ідзе асфальтавая дарога да вёскі, яшчэ 50 гадоў таму была грэбля праз непралазную дрыгву. У 1948 тут надзейна сеў варанок НКВД, што ехаў вывозіць у турму пількаўскіх «кулакоў».

Чаму Пількаўшчына? Хвоі тут раслі такія тоўстыя, што пілы ламаліся — кажа народнае паданне. Не паверым. Ксяндзоўшчына, Макрычаўшчына, Янаўшчына — назвы такога кшталту ўтвараліся ад імені таго, каму належала месца. А ў каралеўскіх інвентарах XVI ст. сустракаем сярод мядзельскіх землеўласнікаў нейкага Івана Пілікавіча. Мо яму належала ў прадаўнія часы тая «Пілікаўшчына», якую пасля наноў засялілі продкі Максіма Танка?

Я апавядаю пра свайго земляка. Вецер яго радзімы — гэта вецер маёй радзімы, мае карані — у той самай Пількаўшчыне. Штосьці пра Танка я ведаў ад бабы, штосьці — ад бацькоў, штосьці чытаў. Нешта збіралася па драбніцах усё свядомае жыццё. І вось з нагоды 100-годдзя вялікага земляка я хачу прывесці вас туды, дзе Танкава паэзія бярэ пачаткі — у вёску Пількаўшчына Мядзельскага раёна. Ёсць пашыраны стэрэатып, што яна стаіць на беразе апетай паэтам Нарачы. На самой справе пры возеры Танк меў у савецкія часы лецішча. А яго родная вёска —між колішніх балацін, на ўскрайку Нявераўскай пушчы.

Павяртаем з мядзельскай трасы на ўказальнік «Пількаўшчына 6». Далей дарога спускаецца нібы па прыступках гіганцкай тэрасы, кожная вёска размешчана ніжэй за папярэднюю: Мацкі, Новікі, урэшце Пількаўшчына. Мы пераходзім мяжу, за якой знікае Народны паэт Беларусі старшыня Вярхоўнага Савета Максім Танк і з'яўляецца Хведараў Жэня. Дакладней — з'яўляўся. Бо зусім няшмат засталося ў Пількаўшчыне людзей, якія помняць яго такім.

Насельніцтва вёскі абнавілася, калі тут пасля Чарнобыля збудавалі шлакавыя дамкі для перасяленцаў. У гаворцы з'явілася гомельскае мяккае «р», тры пількаўскія вуліцы, што разыходзяцца ад «магазіна» набылі стройнасць. Ёсць і зусім новая катэгорыя жыхароў — дачнікі. Мінчукі нядорага купляюць спусцелыя хаты і адпачываюць тут ад горада хто як умее.

**Максім Танк**

Сапраўднае — Яўген Скурко. Народны паэт Беларусі. Нарадзіўся 17 верасня 1912 у Пількаўшчыне (цяпер — Мядзельскі раён Мінскай вобласці). У часы міжваеннай Польшчы быў актывістам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, сядзеў за палітычную дзейнасць у турме на Лукішках. Гэтыя адседкі стануць ягонымі ахоўнымі граматамі ў сталінскі час. У часе вайны — у Маскве, у рэдакцыі партызанскай газеты. З 1948 па 1966 галоўны рэдактар часопіса «Полымя», з 1966 па 1990 — першы сакратар, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. Памёр 7 жніўня 1995. Пахаваны ў Новіках Мядзельскага раёна.



**Патрыярх роду дзед Хведар (сядзіць у цэнтры) і баба Ульяна з нашчадкамі: у другім шэрагу стаяць сястра Максіма Танка Вера, бацька Іван, сам паэт. Побач з дзядамі — сястра Мілка і брат Федзя. 1930-я.**

### Цэнтра

«Пількаўшчына пачыналася з двух фамілій: Скурка і Малька», — казалі старыя людзі. Месца пачатку Пількаўшчыны бачнае дагэтуль. Калі ўехаць у вёску з боку Новікаў, па левым баку, за адной з хатаў, відаць крона велізарнага ду-

# Танка

## 10 фактаў пра Максіма Танка

**Быў камуністам з нябеднай сям'і.** Яго род меў 60 дзесяцін зямлі. Бацька пісьменніка быў адным з найбагацейшых гаспадароў у вёсцы. Гэта дасягалася пякельнай працай усёй вялікай сям'і. Іх не раскулачылі ў канцы 1940-х, бо паэт загадаў бацькам тэрмінова ўступіць у калгас. За «кулацкае» паходжанне ў сталінскія часы пад Танка падкопваліся спецслужбы. Іван Клімаў, былы камісар Віленскага краю, не раз казаў пасля, згадваючы сталінскія гады: «Эх, не дабраўся я да гэтага цыбатага!»

**Даў у вуха правакатару.** У 1932 Яўген Скурко перайшоў польска-савецкую мяжу. На пагранзаставе яго ўзялі пад варту, перамясцілі ў мінскую турму, дзе патлумачылі, што цяпер уцякаць у СССР дазволена толькі тым, каму ў Польшчы пагражае суд. Перад адпраўкай назад да будучага паэта падсадзілі сукамерніка, які пачаў казаць, што, вярнуўшыся ў Польшчу, папросіць прабачэння ва ўладаў. Камсамолец Яўген ударыў яго. Пасля абазнаныя ў савецкіх рэаліях сябры патлумачылі Танку, што гэта была «зязюлька» — правакатар. Выдварэнне ў Польшчу было для Танка жыццёвым шчасцем: тых, хто ўцякаў з Польшчы ў БССР, паверыўшы савецкай прапагандзе, расстралялі ў 1937-м.

**Першы зборнік Танка прафінансаваў інвалід вайны.** Кніжка «На этапах», якая зрабіла Максіма Танка паэтам №1 у Заходняй Беларусі, была выдадзеная не на грошы КПЗБ. Сродкі знайшоў Рыгор Шырма — кіраўнік хору і Таварыства беларускай школы, чыя віленская кватэра была «штабам Міністэрства культуры Заходняй Беларусі». Шырма ж скарыстаў грошы інваліда Першай сусветнай вайны Труцькі, які ахвяраваў на выданне «зборніка песень». Цікава, што ўлады міжваеннай Польшчы выплочвалі пенсіі, заробленыя за царом.

**Студэнты насілі на руках.** У передваеннай Польшчы былы палітвязень Максім Танк, актывіст жорстка апазіцыйнай да ўлады КПЗБ, мог вольна выступаць ва ўніверсітэце. Яго чытанне так зачапіла студэнтаў, што яны ўзнялі паэта на рукі. Танк смяяўся пасля, што адзінай думкай у той момант было: хоць бы не разлезліся адзіныя старыя штаны.

**Быў адным з апошніх, хто бачыў жывым Купалу.** У фатальны вечар 28 чэрвеня 1942 Максім Танк пераведваў Купалу ў яго нумары гасцініцы «Масква». Пераказваў пасля Янку Брылю, што Купала быў цвярозы — лячыўся і піў мінеральную ваду. Гэта аспрэчвае версію пра падзенне паэта ў лесвічны пралёт у нецвярозым стане.

**Гуляў у більярд з Цанавам.** Як Танк выжыў у рэпрэсіях 1940—50-х? «Было ўсяго», — каротка рэзюмаваў ён. Паводле ўспамінаў, ля дзвярэй іх хаты на сённяшняй вуліцы Беларускай у Мінску ўсе сталінскія гады стаяла нарыхтаваная жонкай торба з сухарамі. Як успамінаў паэт, некалькі разоў яго забіралі ўначы і везлі да наркама НКВД БССР Цанавы. А той прапаноўваў... партыю ў більярд, падчас якой, перайамаючы Сталіна, распытваў пра літаратурныя навіны.

**Сястру Танка забілі партызаны.** Ёсць розныя версіі трагедыі, што адбылася на хутары Сэрвач пад Касцяневічамі, куды была зайшоўшы замуж Вера, малодшая сястра паэта. У савецкіх кніжках пісалі, што Веру, яе малое дзіця і свякроў забілі немцы. Сам Танк расказваў, што па іх «стрэлілі з лесу», калі жанчыны пад'язджалі кудысці на выпадковай фурманцы. У наваколлі ж расказваюць, як у суботні вечар, калі мужчыны сышлі да суседзяў гуляць у карты, на хутар завіталі невядомыя. Ім трэба было золата, якое — яны былі пэўныя — атрымала ў пасаг Вера. Агнястрэльнай зброі, каб не падымаць шуму, яны не ўжывалі. Секлі людзей сякерамі... Пасля да бацькі паэта, старога Янука, прыязджаў партызанскі камандзір і прасіў толькі паказаць на тых, хто гэта зрабіў, абяцаючы тут жа расстраляць. Імёны забойцаў не былі сакрэтам, але Янук адказаў: «Хай Бог разбіраецца». Адзін з забойцаў, казалі, пасля вайны жыў у суседняй з Пількаўшчынай вёсцы.

**Не цураўся бел-чырвона-белага сцяга.** У міжваеннае дваццацігоддзе на «крэсах» ішоў бурлівы нацыятворчы працэс. У Сэйм на выбарах 1922 года прайшлі 14 беларускіх дэпутатаў. «Калі б у 1917-м мы мелі такі ўзровень нацыянальнай свядомасці, як цяпер, мы б не сядзелі на лаве падсудных», — казаў адзін з лідараў Грамады Рак-Міхайлоўскі ў апошнім слове падчас працэсу беларускай палітычнай партыі ў 1928-м. Не дзіва, што малады паэт нават пісаў пра нацыянальны штандар вершы ў заходнебеларускіх перыёдыках. Але прызнаўся ў гэтым толькі за часам незалежнасці. Перад смерцю падтрымліваў мову і нацыянальную сімволіку, выступіў супраць Ганебнага рэферэндуму 1995 года.

**Пражыў з жонкай 56 гадоў.** З Любоўю Андрэеўнай Асаевіч паэт пазнаёміўся падчас вучобы ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Пабраліся яны ў 1939-м, выгадавалі траіх дзяцей і памерлі неўзабаве адно па адным.

**Не хацеў вуліцы свайго імя.** Хопіць нам з Брылём Танкавай і Брылеўскай, жартаваў ён.



Хату, у якой нарадзіўся Максім Танк, перавезлі з вёскі на хутар сто гадоў таму.



Максіма Танка і яго жонку пахавалі ў Новіках — пры дзядах.



Старажытная сямейная ікона Скуркаў.

ба. Яго, яшчэ да рассялення на хутары, пасадзіў на сваёй сялібе дзед Максіма Танка —- Хведар. Гэта ад яго імя нашчадкі займелі мянушку «Хведаравы». Пад тым дубам пасля паставіў хату і пражыў доўгае жыццё Танкаў равеснік Вінцук Малька. Цяпер у яго хаце жывуць дачнікі. «Купілі выпадкова, —- расказвае інжынер з Мінска. — Ехалі, пабачылі, што стаіць пустая, доўга гандляваліся». Гісторыя пра дуб была для яго адкрыццём. Гаспадар ківае на пустату, што ўтварылася пад карэннем: «Трэба будзе прасекчы і замазаць цэментам».

### Піварышча

Ад гэтага месца, якое па-пількаўску называецца «Цэнтра», мы кіруемся да раздарожжа, на якім з нядаўніх часоў стаіць васьміканцовы праваслаўны крыж. Паедзеш проста — трапіш у пількаўскі «мікрараён» Піварышча. Узвышша і зараснікі скрыпеню пазначаюць месца, дзе колісь стаяў вясковы клуб. У клубе была добрая бібліятэка, з рэдкімі выданнямі з міжваенных збораў Максіма Танка. Праз недапалак, кінуты п'янай рукой, усё пайшло дымам.

### Пількаўскія «мікраараёны»

Каб трапіць у Танкаву сялібу, на раздарожжы ля крыжа трэба збочыць направа, кіруючыся ўказальнікам на Няверы. Далей проста: праедзеш Хутары і Аступ, у Махнатцы, павернеш на Пружанку, з левай застануцца Барсукі, ад правай — Крыстынчына, а проста — Жукова. Там і будзе хутар Хведаравых. Для тых, хто нічога не зразумеў, праз кіламетр стаіць указальнік.

Раней усе тыя назвы пазначалі пількаўскія «мікраараёны», яны былі населеныя людзьмі і поўніліся жыццёвымі гісторыямі, смешнымі і трагічнымі: як Бладзюк з брыгадзірам мяняўся жонкамі, як Крыстынка зімавала з каровамі без хаты, як польскія жаўнеры шукалі штыхамі ў сене Андрука, як віленскі біскуп блаславіў шлюб 15-гадовай Кацярынкі... Цяпер вакол пустка —- толькі вецер гудзе над рапсавым полем, шуміць лес, ападаюць дзічкі на хутарышчах, упіраюцца ў нікуды зарослыя сцежкі.

### Між Шыпаўкай і Краснаўкай

Перад хутарам, на які яшчэ перад Першай сусветнай перасяліўся Хведар Скурка, разлеглася вялікае поле. Была ворная зямля і за ім, але пры саветах зарасла лесам. Хутар стаяў між дзвюх рэчак — Шыпаўкі і Краснаўкі, і ўвесну, успамінаў паэт, бываў адрэзаны ад свету вадой. Можна ўявіць той плюскат вады і птушыны гром, тое буйства прыроды, якое не магло не натхняць. Рэчкі зніклі ў меліярацыю.

Сялібу таксама ўпрыгожваюць дубы. Адзін сустракае гасцей на паваротцы да яе. Дрэва, кажа сённяшняя гаспадыня хутара, Марыя Янаўна, «бацька пасадзіў, як Жэня нарадзіўся». Але то можа быць легендай, выглядае дуб істотна маладзейшым. Другі дуб бацька паэта, Янук Скурко, пасадзіў проста ля вясніц у год пераезду на хутар. Дрэва шырока раскінуўся за сто гадоў, шчодра сыпе жалуды на дварышча.

### Стогадовая хата

На сялібе дзве хаты. Навейшую, з аканіцамі, збудавалі ў 1930-х. Старую, што стаіць за ёй, Хведаравы перавезлі яшчэ з Пількаўшчыны. «Мая калыска» — называў яе Танк. Прыземісты будынак, нягледзячы на гады, не падаецца спарахнелым: сцены з сасновага кругляка з невыводным цёмным налётам ад лучыны, таўшчэзныя бэлькі. Цёмныя сенцы. Над уваходам прасечана акенца-байніца — найперш для святла, але і са стрэльбы можна праз яго пальнуць. Злева дзверы ў адзіны пакой, справа — у варыўню. У пакоі, у чырвоным куце — старажытная ікона: барадаты Бог-Бацька. Танк згадваў яе сваіх «Лістках календара», параўноўваючы выяву з дзедам Хведарам. Ікону прынесла ў пасаг маці паэта, Домна Іванаўна. Пад іконай на покуці стаіць партрэт Максіма Танка.

За печчу, у дальнім куце, —- ложак пры акне. «На гэтым ложку Жэня спаў, калі бываў дома. А праз акно ўцякаў, калі налятала паліцыя», —- расказвае Марыя Янаўна.

### Брат

Муж Марыі Янаўны, малодшы брат паэта Фёдар Скурко, быў адным з апошніх спрадвечных пількаўшчанаў. Ён з гурмой пількаўскіх і слабадскіх дзяцей хадзіў у польскую школу да настаўніцы Францішкі Адамаўны, якая пазычала маладому Танку літаратурныя часопісы і брала яго на парукі ў часы пераследу. Паліцэйскі налёт, апісаны на пачатку, быў пабачаны яго дзіцячымі вачыма.

Змалада Федзя жыў у Мінску, працаваў на Трактарным. Але не прыняў горада — вярнуўся на дзедаву сялібу. Можа, дзедава імя перадвызначыла лёс. Ён лёг «пад сасной зялёнай» летась.

### Чаму не пад аховай дзяржавы?

Цяпер Марыя Янаўна, Федзіха па-вясковаму, жыве на хутары адна. Сын Іван — у далёкім Віцебску. Кабета прывыкла да пастаянных экскурсій, прымае іх. Як умела, яна ўпрыгожыла дыванамі, вышыўкамі і дарожкамі старую хату; ганяе дачнікаў, што збіраюць грыбы пад вокнамі. На добры толк Федзіха мусіла б мець ад Мінкульта якую капейку як захавальніца ўнікальнага месца, будынкаў, дубоў. На добры толк тыя будынкі і дрэвы трэба было б узяць пад дзяржаўную ахову, каб не з'яўлялася шалёных думак, як у тых леснікоў, якія прапаноўвалі гаспадыні «спілаваць за дзве бутэлькі» дуб у дварышчы.

### Магіла Танка

На зваротным шляху праз Новікі завітайце на магільнік. Танк пахаваны ад правага боку, у старой частцы, побач з бацькамі, дзядамі і далейшымі продкамі, што ляжаць пад ужо безыменнымі каменнымі плітамі. Танк ведаў, чаго хацеў, калі адмовіўся хавацца на афіцыёзных Маскоўскіх могілках. Прагрымелі дзве вайны, скурочыла вёску калектывізацыя, Беларусь стала незалежнай... Мала што зменіцца тут і ў наступныя сто гадоў — толькі вырасце новае пакаленне дрэваў. Максім Танк цяпер таксама належыць гэтай вечнасці.

**Андрэй Скурко**

# Чаканне ў маўчанні

Чалавек **тупее незаўважна**.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Сёлетнія парламенцкія выбары праходзяць незаўважна.

Амаль нябачныя апазіцыйныя палітыкі ды грамадскія актывісты, якія ідуць на выбары. Не дзейнічаюць і тыя, хто агітуе за байкот. Нядзейныя кандыдаты ад уладаў, якія ведаюць, што ўжо перамаглі. Пасіўныя і выбаркамы, якія ўжо ўпэўнена «прагназуюць лічбы будучыні». Нядзейны таксама і электарат, якому нічога нецікава і які ведае наперад, што і хто на гэтых выбарах будзе рабіць.

Усё гэта вельмі розніцца ад нашых суседзяў. Летась меў шчасце назіраць, як адбываюцца парламенцкія выбары ў Польшчы. Здзівіла тады тое, што простыя палякі вельмі ўпэўнена, цвяроза і аргументавана тлумачылі свой выбар. Тут амаль кожны мае свае погляды на жыццё і палітыку. Што найбольш кідалася ў вочы: людзі не баяцца выказваць свае думкі ўслых і ахвотна ідуць на кантакт, каб патлумачыць сваю пазіцыю. Так, адзін таксіст прызнаўся, што падтрымае міліянера-папуліста Палікота, бо той легалізуе марыхуану, а гэта прыцягне ў Польшчу шмат новых турыстаў і грошай: «Галандыя ўжо шмат часу жыве так, і нічога».

У Беларусі ж, падаецца, людзі перасталі думаць. Летась, працуючы ў баранавіцкай газеце, рабіў шмат апытанняў на вуліцах. З сумам адзначыў, што большасць жыхароў краіны не могуць звязаць нават некалькіх словаў. І гэта тыя, хто згаджаецца адказаць на простае пытанне. Большасць жа наогул адмаўляецца пра нешта гаварыць.

Гледзячы па тэлевізары Задорнава, мы смяёмся з дурных амерыканцаў, якія з-за сваёй заможнасці нічога не кемяць. Але ж беларусы дурнеюць на вачах, пры тым не маючы нават дабрабыту як у сваіх суседзяў.

Беларуская ідэалогія пажынае свае вынікі — людзі не цікавяцца нічым. Закон «Чарка, шкварка, іншамарка» стаўся галоўным сімвалам сучаснай беларускай нацыі. Акрамя тэлевізара і серыялаў, людзі абыякавыя да ўсяго, што адбываецца. «Галасуй не галасуй, усё адно палучыш...» — вось стаўленне электарату да выбараў. Хаця большасць і ведае, як у нас лічаць галасы, але мяняць нешта тая большасць зусім не збіраецца. Ніхто нават і не напружваецца, бо, «відаць, так і трэба».

Самастойна думаць і нешта рабіць народ развучыўся, бо ад гэтых думак адны праблемы. Усе прывыклі нечага чакаць. На працы чакаюць загаду начальства і магчымасці нешта скрасці, маладыя сем'і чакаюць кватэры па танным крэдыце Апазіцыя чакае на дапамогу Захаду. Спадзяёмся, што Лукашэнка знойдзе грошы, а паўсталыя праблемы вырашацца самі сабой. Чакаем на Расею, Мытны саюз, ЗША, кітайскіх бізнэсоўцаў, вяртанне гастарбайтараў, танныя візы ў Еўрасаюз...

Так у чаканні і праходзіць наша жыццё, сплывае наш час.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## «А ўскрыццё пацвердзіць дыягназ доктара»

Паважаная рэдакцыя, я ніколі не пісаў у газеты. Не таму, што не хапае здольнасці, а таму што лічу: усялякай справай павінен займацца спецыяліст. Але, прачытаўшы артыкул шаноўнага «хірурга з Мінска» (№32 ад 29.08.2012), не здолеў стрымацца.

Чамусьці дыпламаваны доктар абураны тым, што ў краіне кепска пастаўлена справа ЖКГ, абслугоўвання і будаўніцтва, маўляў, усё астатняе ў парадку. Прабачце, але скаргі на працу медыкаў у разы перакрыюць брак абслугоўвання. Можа, шаноўны ні разу не чуў пра тое, як гадамі лечаць пацыента ад адной хваробы, заганяючы другую ў хранічнае становішча? Пры гэтым карпаратыўная этыка не дазваляе аднаму доктару казаць пра другога, што ён, выбачайце, канавал! Усе паперкі акуратненька падшытыя, а ўскрыццё пацвердзіць дыягназ доктара. Зрабілі што змаглі.

У краіне правялі дэбюракратызацыю, хабар у прыёмных камісіях ВНУ не бяруць. Застаецца толькі пастраляць гэтых здраднікаў і махляроў-сантэхнікаў ды тынкоўшчыкаў. Няўцям мне, шаноўны, вы сапраўды не ведаеце, куды дзеліся спецыялісты? Дык я адкрыю вам таямніцу — яны рушылі ў пошуках дастойных заробкаў, бо дзеці рабочага таксама хочуць есці.

Вельмі ўразіла тое, што, на думку аўтара вышэйназванага артыкула, «няма каму абслугоўваць насельніцтва». Вакол хапугі і п'яніцы? Пашукайце майстра сярод прыватнікаў. Сёння магчыма адшукаць шмат спецыялістаў высокага ўзроўню. Яны патрабуюць высокай аплаты? Так, патрабуюць, а як вы хацелі? Гэта толькі з вуснаў кіраўнікоў у нас сацыяльна скіраваная эканоміка, а на самой справе ўжо даўно рынкавыя адносіны. Калі доктара не задавальняе аплата ягонай працы, таксама няма чаго сумаваць, у краіне існуе даволі шмат медыцынскіх установаў, асабліва ў Мінску.

Я не апраўдваю халтуршчыкаў і гультаёў, але прабачце, як казаў той самы сантэхнік, калі яго выклікалі ў Дом урада, «трэба сістэму мяняць».

**Яўген, проста рабацяга з Ліды**

УНІВЕРСІТЭТ ЛАЗАРСКАГА / LAZARSKI UNIVERSITY
вядучы прыватны ўніверсітэт бізнесу і права ў Польшчы

- Студэнты з 30 краінаў свету
- Кваліфікаваныя выкладчыкі з ЗША і Еўропы
- Выпускнікі англамоўных праграмаў атрымліваюць два дыпломы — польскі і брытанскі
- Сістэма адукацыі накіраваная на высокую якасць і практычны досвед
- 96% выпускнікоў знаходзяць працу адразу пасля заканчэння ўніверсітэта



"Самы інавацыйны і крэатыўны ўніверсітэт у Польшчы" паводле вынікаў конкурса сярод прыватных універсітэтаў 2010 і 2011 гг.

Даведайся больш: www.lazarski.ru
belinfo@lazarski.edu.pl
Тэлефон: +48 500 167 406

ТАА «Ірвінга Група», УНП 191751509

# Культуры вярнулі яшчэ адзін будынак

**На плошчы Свабоды** адкрылі галерэю Міхала Савіцкага.

Амаль штодзень я мінаў гэты будынак, ідучы ў школу. У ім, за жалезнымі дзвярыма і калючым дротам, быў ваенкамат. Адсюль салдаты траплялі ў Афганістан, на вайну. Маё школьніцкае сэрца сціскалася, калі я чуў плач іх мацярок...

А да савецкай улады гэты манументальны асабняк быў адным з самых шыкоўных у Мінску. Будынак згадваецца ўжо ў 1775 як палац падканцлера ВКЛ, графа Міхала Пшэздзецкага. Пасля ім валодаў Андрэй Станкевіч, а ад 1826 — Юрый Кабылінскі, які стварыў у будынку першы гарадскі музей. У ім быў і Статут ВКЛ, і нават аўтэнтычная карта Хрыстафора Калумба. Гэты дом апісвалі Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля ды Павал Шпілеўскі.

У той самы час тут была майстэрня слыннага мастака Яна Дамеля. Таму ёсць логіка ў тым, што сёння гарадскія ўлады вырашылі стварыць у будынку мастацкую галерэю. Кажуць, што яго для выставы сваіх твораў Міхал Савіцкі калісьці абраў сам.

У другой палове XIX ст. сядзіба належала духоўнаму вучылішчу. Пад слаямі савецкай тынкоўкі рэстаўратары знайшлі роспісы і кафлю. Некалькі месяцаў Уладзімір Ракіцкі займаўся іх раскрыццём. У выніку маем адзіны ў Беларусі ансамбль свецкага сценапісу сярэдзіны XVIII ст. У чатырох залах узноўленыя гістарычныя інтэр'еры колішняга палаца — вялікай гасцінай, малой гасцінай, кабінета, бібліятэкі.

Асоба народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага, пры ўсёй яе неадназначнасці, застанецца адной з найярчэйшых у гісторыі нашай культуры. Паводле маштабу творчага дробку, цяжка кагосьці паставіць поруч з ім у БССР. Ён аўтар бліскучых твораў, прысвечаных класікам нашае культуры. А нізка палотнаў «Чорная быль» дагэтуль застаецца самым значным увасабленнем у мастацтве чарнобыльскай атамнай катастрофы. Экспазіцыя, прысвечаная творчасці Савіцкага, размешчана ў дзевяці залах. Апроч палотнаў, тут ёсць асабістыя рэчы мастака, узнагароды, дакументы. Цэлая эпоху, што незваротна сышла ў нябыт.

Савіцкі быў настаўнікам для двух пакаленняў мастакоў, якія складаюць сёння эліту нашага класічнага мастацтва. Гэта Віктар Альшэўскі, Аляксандр Ксяндзоў, Ігар Бархаткоў, Раман Заслонаў, Сяргей Гумілеўскі... Пэўна, з цягам часу, у экспазіцыі будуць і іх творы.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Так, творчасць мастака і сама яго асоба сталі ў нашай дзяржаве часткі ўладнай прапаганды. Але ў выніку маем яшчэ адзін асяродак культуры ў сталіцы, што з цягам часу набрыняе іншым зместам. А Мінск пачаў адраджаць адну са сваіх найкаштоўнейшых рэліквіяў — палац падканцлера ВКЛ! І можа заўтра які школьнік не прабяжыць стрымгалоў міма, а зойдзе туды, каб спрычыніцца да свету мастацтва.

**Сяргей Харэўскі**

# Да дэльтаплана Пуціна далучыліся пяць журавоў

Уладзімір Пуцін здзейсніў палёт на мотадэльтаплане з чарадой маленькіх журавоў, занесеных у Чырвоную кнігу.

Па дарозе на саміт АТЭС ва Уладзівасток прэзідэнт Расіі прыляцеў у паўночны гарадок Салехард, адкуль на верталёце дабраўся да арніталагічнай станцыі «Кушэват». Там ён паўдзельнічаў у эксперыменце, мэта якога — паказаць выведзеным у гадавальніку стэрхам маршрут пералёту. Пуцін сеў за штурвал мотадэльтаплана, які птушкі прымаюць за свайго важака.

Першы раз за дэльтапланам прыбіўся толькі адзін стэрх. Пуцін тлумачыў журналістам, што іншым перашкодзіў моцны вецер і завысокая хуткасць дэльтаплана. Другі палёт прайшоў больш паспяхова — у хвост дэльтаплана прысталі 5 птушак, хоць праз некалькі колаў засталіся толькі дзве.

Драматычная сітуацыя з экалогіяй на расійскай Поўначы абумоўлена жорсткай эксплуатацыяй рэсурсаў. Там здабываюць нафту і газ, пры гэтым культура здабычы і побыту нізкая, у выніку чаго разбураюцца экасістэмы.

**Мікола Бугай**





На палёт Пуціна з журавамі імгненна адрэагавалі карыстальнікі інтэрнэту.











**Юбілей**

# «Нацыянальную біблітэку пабудавалі на маім гародзе»

13 верасня адзначае 75-годдзе **Уладзімір Содаль.**

«Я лічу сябе карэнным нашаніўцам, — кажа літаратуразнаўца Уладзімір Содаль. — І маю на тое ўсе падставы, дзякуючы кнізе «Волат з Мігаўкі».

Выданне, прысвечанае рэдактару «Нашай Нівы» Аляксандру Уласаву, можна назваць унікальным — спадар Содаль сабраў успаміны людзей, якія ў розны час сустракаліся з Уласавым. Як гэтая кніга, так і іншыя яго працы, прысвечаная дзеячам нашай культуры, прасякнутыя непадробнай любоўю.

Уладзімір Содаль нарадзіўся ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна. «Усе мае продкі былі ў высылцы, — расказвае спадар Уладзімір. — Мелі ўнікальны для Беларусі паравы млын. Тату нават вярнулі з высылкі, бо не было спецыяліста, які б мог працаваць на тым млыне. Пасля яго забралі на вайну, я добра памятаю, як бег за машынай і прасіў узяць мяне з сабой...»

Лёс спадара Уладзіміра складаўся няпроста. У дзяцінстве з-за выпадковага выбуху ён страціў вока. Але гэта не зашкодзіла яму пасля школы паехаць працаваць на Поўнач. «На экзаменах у Мазырскі педінстытут я зрэзаўся на расейскай мове, — згадвае спадар Уладзімір. — Мне прапанавалі стаць загадчыкам клуба. Той клуб быў вельмі запушчаны, і мы з моладдзю прывялі яго ў належны стан. Сельсавет набыў музычныя інструменты, але ў самы разгар нашай асветніцкай працы нехта іх скраў. Сельсавет вырашыў усю страту спагнаць з мяне. Як толькі я разлічыўся, паехаў у Мурманск».

Содаль уладкаваўся на працу ў порт, электрыкам прычала. Калегі не маглі запомніць яго незвычайнае прозвішча, таму называлі Сальта — такую назву меў італьянскі партовы кран.

«У Мурманску мяне не пакідала думка пра Беларусь, пра лёс мовы. Я напісаў ліст Нілу Гілевічу з пытаннем, чаму беларуская мова і культура настолькі занядбаныя». Пасля двух гадоў ліставання Содаль вярнуўся ў Беларусь. Ён здолеў паступіць ва ўніверсітэт — за яго заступіўся рэктар, сказаў прыёмнай камісіі: «Гэтага хлопца трэба ўзяць, калі што, папраўце там яму памылкі».

Пасля Содаль працаваў у санаторыі для сухотнікаў — адкрываў дзецям беларускую культуру, ён стварыў праграму «Роднае слова» на тэлебачанні. Адначасова з'яўляюцца яго шматлікія публікацыі і кнігі пра Багушэвіча, Ядвігіна Ш., Дуніна-Марцінкевіча, Зоську Верас... У 1997 спадар Уладзімір атрымаў ордэн «Гонар Айчыны» і імянны срэбны пярсцёнак з выявай «Пагоні» за даследчую працу і змаганне за мову.

Любіць Уладзімір Содаль расказваць пра тое, што на ягонай зямлі цяпер пабудавана Нацыянальная бібліятэка: «Там раней былі прыватныя надзелы, вёска. І ў мяне быў свой кавалак... Сябры вельмі весяліліся, казалі: у каго што на гародзе вырасла, а ў Валодзі — адразу бібліятэка».

Уладзімір Содаль працягвае працаваць на карысць беларускай культуры. «Наша Ніва» зычыць яму здароўя і творчых поспехаў.

**Юрась Ускоў**




## ХАКЕЙ

### Першая хатняя серыя

**13 верасня мінскае «Дынама»** ў рамках чэмпіянату КХЛ сустрэнецца з брацілаўскім «Слованам». Пачатак а 19-й. **15 верасня** «Дынама» прыме маскоўскі ЦСКА. Пачатак а 17-й. **17 верасня:** «Дынама» — «Леў» (Прага). Пачатак а 19-й.

## ФУТБОЛ

### 24 тур

**15 верасня ў чэмпіянаце Беларус**і сустракаюцца:
«Белшына» (Бабруйск) — «Дынама» (Мінск),
БАТЭ (Барысаў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна),
«Брэст» — «Гомель»,
«Нафтан» (Наваполацк) — «Шахцёр» (Салігорск),
«Мінск» — «Славія» (Мазыр).

## ІМПРЭЗЫ

### Сяргей Харэўскі і Зміцер Вайцюшкевіч у «Ў»

**13 верасня за прылаўкам кнігарні «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** будзе стаяць мастак і мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі. Падчас сваёй кароткай працоўнай змены (з 19:00 да 20:00) спадар Сяргей дасць параду наведнікам, якія кнігі і мастацкія альбомы вартыя прачытання ды падпіша усім ахвочым сваю нядаўна выдадзеную кнігу эсэ «Прачутае». **18 верасня (аўторак)** за прылаўкам кнігарні «логвінаЎ» (Незалежнасці, 37а) будзе стаяць спявак і музыка Зміцер Вайцюшкевіч. Уваход — вольны.

### Прайсці праз вернасць

**17 верасня а 19-й ў Малой зале імя Р.Шырмы** — літаратурна-музычная праграма «Прайсці праз вернасць», прысвечаная 100-годдзю Максіма Танка.

### Фестываль Юрыя Башмета

**VII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета пройдзе з 23 верасня да 5 кастрычніка** ў Мінску. 23 верасня — урачыстае адкрыццё фестывалю. Перад публікай выступіць Літоўскі камерны аркестр.

### Endorphine

**14 верасня а 19-й у клубе «Гагарын» (пр. Партызанскі, 2)** пройдзе фестываль перформанса і фрык-тэатраў ENDORPHINE. У праграме бяруць удзел перформанс групы Беларусі і Расіі.

## КАНЦЭРТЫ

### Маэстра гусінага пяра

**13 верасня а 19-й у Малой зале імя Р. Шырмы** — музычны вечар, прысвечаны Юзафу Ігнацы Крашэўскаму і найцікавейшым яго творам — музычным і літаратурным. Стваральнікі і выканаўцы музычна-сцэнічнай замалёўкі — ансамбль салістаў «Класік-Авангард».

### Паліна Рэспубліка

**16 верасня ў клубе «Графіці» (Калініна, 16)** канцэрт дае Паліна Рэспубліка. Пачатак а 18-й.

### Ані Лорак

**16 верасня ў Robinson Club** пройдзе канцэрт Ані Лорак. Пачатак а 19-й.

### Capella Cracoviensis

**18 верасня а 19-й на сцэне Белдзяржфілармоніі** выступае барочны ансамбль Capella Cracoviensis (Кракаў). Capella Cracoviensis спецыялізуецца на выкананні старадаўняй музыкі на гістарычных інструментах.

## ВЫСТАВЫ

### Радавод. Успамін пра Вялікае Княства Літоўскае

**Да 30 верасня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе фотавыстава Алега Белавусава «Радавод. Успамін пра Вялікае Княства Літоўскае».

### Міракль аб Уршулі

**Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны завулак,5) запрашае да 28 верасня** наведаць выставу партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

### Сюжэты з жыцця

**Выстаўка мастацкага шкла і графікі Людмілы Мягковай і Уладзіміра Мурахвера «Сюжэты з жыцця» працуе да 30 верасня** ў Музеі гісторыі горада (Рэвалюцыйная, 10).

### Бібліятэка

**Да 20 лістапада ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (пр.Незалежнасці, 116)** працуе рэспубліканскі мультыпраект «Бібліятэка», прысвечаны 90-годдзю Нацыянальнай бібліятэкі. Мультыпраект уключае ў сябе цэлы шэраг асобных праектаў: культурна-асветніцкія выставы «Гісторыя пісьменства», «Кніга ў выяўленчым мастацтве», выставу каліграфіі, фотапраект «Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў абсягах часу» і іншае.

### Ад Менска да Мінска

**Да 20 верасня ў Палацы мастацтва (Казлова, 3)** працуе выстава «Ад Менска да Мінска», на якой паказаныя работы на гістарычную тэматыку і творы, на якіх перад гледачом паказаны сучасны выгляд сталіцы, створаны за апошнія 10 гадоў.

## ТЭАТРЫ

### 13 верасня

**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Купалаўскі** — «Зіма»

### 14 верасня

**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 15 верасня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Купалаўскі** — «Не мой»

### 16 верасня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 17 верасня

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Трубадур»

### 18 верасня

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Балеро»

### 19 верасня

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 20 верасня

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 21 верасня

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Анюта»

## КІНО

### Няшчасныя закаханыя з паралельных сусветаў

**Паралельныя сусветы** (Upside Down)
ЗША — Канада, 2012, каляровы, 113 хв.
**Рэжысёр:** Хуан Дыега Саланас
**Ролі выконваюць:** Джым Сцёрджэс, Кірстэн Данст, Стэла Маіў, Ніл Нап'е, Джэйн Хайтмаер
**Жанр**: Фантастычная мыльная опера
**Адзнака**: 3 (з 10)

Герой стужкі з сацыяльных нізоў, але ён закахаўся ў дзяўчыну высокага статусу. Сацыяльныя супярэчнасці ўскладняюцца тым, што каханкі жывуць на суседніх планетах, дзе зусім розныя законы гравітацыі.

Карціна Хуана Дыега Саланаса — саладжавая мыльная опера з фантастычнымі элементамі для рамантычнага антуражу. Закаханасць падкрэсліваецца завісаннем у паветры, пяшчотна-тэхнакратычнымі дэкарацыямі і ўпартым хаджэннем па столі. Але галоўнае ў карціне — перажоўванне пачуццяў.

Дзеянне ў фільме затарможанае, як сны хатняй гаспадыні. Але маюцца складнікі тэлевізійнага серыяла: гутарка пра пачуцці, шматкроць паўтораная з рознымі персанажамі, прыгожыя твары і абавязковая амнезія галоўнай гераіні.

Фільм — дзявочая стужка, на якую фізікам уваход забаронены.

**Андрэй Расінскі**






PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Дажынкі-2012»**

**У Горках (Магілёўская вобласць) 21 і 22 верасня** пройдзе штогадовы фэст-кірмаш «Дажынкі».

# «Поле цудаў» застаецца самай папулярнай праграмай АНТ

Якія перадачы **глядзяць беларусы**.

Тэлебачанне працягвае заставацца звыклым спосабам бавіць час. Колькі б людзі ні абураліся тым, што паказваюць у эфіры, тэлевізар можна знайсці амаль у любой кватэры.

Мы прапануем топ-10 перадач за чэрвень, складзены каналам АНТ. Паколькі АНТ працуе не толькі з беларускім кантэнтам, а таксама з праграмамі расійскага Першага канала, рэйтынг атрымаўся змешаным.

**10. «Чакай мяне» — 8.3%**

Праграма «Чакай мяне», якую вёў Ігар Кваша, заставалася адной з найпапулярнейшых з моманту з'яўлення на экране — нездарма яна заўжды ішла ў прайм-тайм. У студыю прыходзяць людзі, якія імкнуцца знайсці сваіх блізкіх, сяброў і іншых людзей, якія зніклі альбо чые кантакты згубіліся канчаткова.

**9. «Вялікая розніца» — 8.5%**

Гумарыстычнае шоу Івана Урганта і Аляксандра Цэкалы з пародыямі на ўсемагчымыя тэлепраграмы, фільмы, серыялы і масавую культуру ў цэлым настолькі папулярнае, што ў Беларусі была створаная свая версія перадачы пад беларускамоўнай назвай «Вялікая розніца», з тымі самымі вядучымі.

**8. «Чакай мяне. Беларусь» — 9,1%**

Беларускі аналаг расійскай перадачы, куды больш актуальны для беларускай аўдыторыі.

**7. «Фабрыка зорак» — 9.6%**

Новая версія некалі звышпапулярнага шоу, з той розніцай, што цяпер змяніўся сэнс перадачы: замест стварэння канвеерным шляхам у анлайн-фармаце зорак з простых грамадзян, гледачам прапануецца параўнаць поспехі ўкраінскіх і расейскіх выпускнікоў былых «Фабрык». Апроч таго, у чэрвені такі самы рэйтынг мела перадача «Творчы вечар Эдуарда Хіля» — пасля смерці спевака ягоны бенефіс паказалі па АНТ не адзін раз.

**6. «Контуры» — 9.7%**

Аўтары перадачы вызначаюць яе жанр як «Інфармацыйны арт». Пакінем такую ацэнку на іх сумленні.

**5. «Музычныя вечары ў Мірскім замку» — 9.9%**

Трохдзённы музычны марафон у Мірскім замку штогод становіцца адной з самых рэйтынгавых перадач канала — рэч у тым, што на гэтую музычную імпрэзу абавязкова завітваюць музыкі, якія маюць статус легендарных, а пасля іх канцэрты з вялікім поспехам транслююцца ў вячэрнім эфіры.

**4. «Нашы навіны» ў 20.30 — 10.7%**

У рэйтынг трапілі вечаровыя навіны, якія ідуць адразу пасля расейскай навіннай праграмы «Время». Што цікава, «Время» мае большую папулярнасць сярод гледачоў АНТ, чым беларускія навіны.

**3. «Время» — 12.6%**

Магчыма, гледачы стаміліся ад досыць аднолькавых беларускіх навінаў і з большым задавальненнем глядзяць навіны расейскія, а таксама замежныя — а магчыма, пасля паўгадзіннага «Времени» не ва ўсіх застаецца энергія для дадатковых навін.

**2. «Няхай гавораць» — 12.8%**

Праграма Андрэя Малахава «Няхай гавораць» мае фармат ток-шоу, у якім кожны дзень разглядаецца якое-небудзь здарэнне, што выклікае ў грамадстве водгук. У студыю запрашаюцца ўдзельнікі здарэння, відавочцы, эксперты і гледачы, якія бяруць у спрэчцы гарачы ўдзел. Магчыма, папулярнасць перадачы звязана з тым, што ў ёй добра праглядаецца жыццё расійскай глыбінкі, а з сітуацыямі, падобнымі да тых, што выносяцца на абмеркаванне, сутыкаўся амаль кожны.

**1. «Поле цудаў» — 19.6%**

А самай папулярнай перадачай канала АНТ з'яўляецца капітал-шоу «Поле цудаў» Леаніда Якубовіча, якое перамагае ў рэйтынгу з вялізным адрывам. Ідзе «Поле цудаў» у прайм-тайм у пятніцу. Здавалася б, перадача па адгадванні словаў па літарах засталася далёка ў 90-х гадах, аднак і цяпер аматары «круціць барабан» і перадаць слоік-другі салёных гуркоў у музей перадачы кожную пятніцу збіраюцца ля тэлевізара.

**Юрась Ускоў**



Леанід Якубовіч дапамагае ігракам раскручваць барабан ажно з 1991.




Вядучы «Контураў» Аляксандр Аверкаў нарадзіўся ў Саратаўскай вобласці, але кар'еру зрабіў у Беларусі.

## У Гродне расцвілі каштаны, прычым не ад дабра

Прычына **анамальнай з'явы** — не ў надвор'і, а ў хваробе.



Паводле словаў біёлагаў, нясвоечасовае квітненне звязанае з нападам на дрэва каштанавай молі — «ахрыдскага мінёра» (Cameraria ohridella). У выніку дрэвы выпускаюць кветкі і новыя лісты ў верасні, што яшчэ больш іх аслабляе і вядзе да пагібелі.

У Еўропе навучыліся змагацца з хваробай каштанаў: самым эфектыўным і экалагічна чыстым спосабам лічыцца збор і вываз апалай лістоты — менавіта ў ёй моль зімуе. Таксама каштаны апрацоўваюцца інсектыцыдамі — маскіланам ды энтамафагам — у пачатку квітнення, а пасля кожныя 2-3 тыдні. У Беларусі хворыя дрэвы зазвычай пакуль спілоўваюць.

**Алесь Кіркевіч**

## У Беларусі замест звыклых відэльцаў выпусцяць відэльцы-клюшкі

Прыдумаў іх хлопец з Гомеля, а выпускаць пачнуць **да ЧС па хакеі**.

Узор новага прыбора стварылі ў Гомельскім прафесійна-тэхнічным каледжы машынабудавання. Гібрыд нажа, відэльца і клюшкі прыдумаў вынаходнік Станіслаў Галкоўскі, вырабілі яго з нержавейкі. Па сваіх памерах першая мадэль відэльца-клюшкі крыху меншая за стандартныя сталовыя прыборы. Гэта фактычна мініяцюрная пластыкавая хакейная клюшка з трыма зубамі на канцы і рэжучай ніжняй паверхняй. За кошт таго, што ручка размяшчаецца зверху, ціск рэжучай паверхні атрымліваецца даволі высокім.

Узор вырабілі студэнты каледжа пад кіраўніцтвам педагогаў. «Такі сталовы прыбор можа стаць візітоўкай сусветнага чэмпіянату: убачыў нехта відэлец-клюшку і адразу ўспомніў Беларусь», — расказаў агенцтву БелТА дырэктар каледжа Генадзь Казлоў.

Як тлумачыць аўтар вынаходства, для масавага продажу відэлец-клюшка задуманы як пластыкавы і аднаразовы. Металічная мадэль — хутчэй сувенірная прадукцыя. «На мерапрыемствах мы не заўсёды ямо седзячы за столікам, — кажа Стась Галкоўскі. — А калі ў адной руцэ прыходзіцца трымаць пластыкавую талерку — ужо не да нажа, а адрэзаць аднаразовым відэльцам, напрыклад, кавалачак філе нялёгка». Новы сталовы прыбор вырашае гэтую праблему.

Аўтар ужо прыдумаў і назву свайму вынаходству — «Чыкен-по». Chicken paw — у перакладзе з ангельскага азначае «курыная лапка». Відэлец-клюшка-нож сапраўды чымсьці нагадвае курыную лапку, якая ў XX стагоддзі стала адным з сімвалаў пацыфізму. Спорт жа спрадвеку мае пацыфісцкую накіраванасць, яшчэ ў Старажытнай Грэцыі на час Алімпійскіх гульняў спыняліся ўсе войны.

На ручцы «Чыкен-по» хлопец хоча змясціць сімволіку чэмпіянату, напісаць Minsk-2014.

**СГ**


### Прыватныя абвесткі

**ВІНШАВАННІ**

**Віншуем Яўгена Скрабутана і Галіну Ашмяну!** Няхай дзень вашага вяселля стане першым з найшчаслівейшых дзён вашага жыцця! Гарадзенскія сябры.

**Наказ Яўгену Скрабутану і Галіне Ашмяне.** Няхай зараз гарадзенскія беларускамоўныя садкі і школы ніколі не пустуюць. Віншуем са шлюбам. Менскія сябры.

**Паважаны Уладзімір Ілліч Содаль**, віншую Вас з 75-годдзем. Жадаю Вам шчасця, моцнага здароўя, аптымізму і творчых поспехаў. З павагай Аляксей.

**КНІГІ**

**Шукаю кнігу** Дзяніса Лісейчыкава «Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720—1838 гг.». Т.: (029) 205-35-89.

**КАНТАКТЫ**

**Адраджэнне, літаратура, кіно, рок-музыка**, схільнасць да грунтоўных вандровак, адкрытасць, вера ў Бога — тады давай таварышаваць. Т.: (029) 205-35-89, dzianiszhurba@gmail.com.

**РЭПЕТЫТАР**

**Шукаю рэпетытара** па латышскай мове. Т. (029)133-98-78 (Ганна).

**ПРАДАМ**

**Проса 500 кг**, цана 1 кг. — 8 тыс. бел. руб. Самавываз. Т. (у Кобрыне): (044) 539-45-82

**ЗАПРАШАЮ**

**Майстар народнай творчасці Рудніцкая Галіна** запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі. Заняткі з кастрычніка па май раз на тыдзень (ранішняя і вячэрняя групы) па адрасе: вул. Гікалы, 4, Мінск (ст.м. «Плошча Якуба Коласа»). Для іншагародніх магчыма інтэнсіўнае навучанне. Заняткі 2 разы на месяц па суботах з лістапада па сакавік. Т.: (029) 171-13-90.

Прыватныя абвесткі ў «НН» можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце nann.by.



Нкляеў стаў хросным бацькам. Ён хрысціў свайго цёзку Уладзіміра, сына Андрэя Дзмітрыева, калегі па кампаніі «Гавары праўду».

АНТОН МАТОЛЬКА



У брыгадзе спецыяльнага прызначэння 3214 прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 70-годдзю гэтай вайсковай часці. Спецназаўцаў з Уруччa нярэдка выкарыстоўваюць для разгону вулічных акцый.

PHOTO.BYMEDIA.NET



**Абаму паднялі на руках. У піцэрыі ў штаце Фларыда, якую наведаў прэзідэнт ЗША, яго чакаў гарачы прыём. Уладальнік піцэрыі сказаў, што яго проста ахапіла хваляванне пры выглядзе прэзідэнта.**



**Алесь Пушкін прыйшоў у суд у Смаргоні з новым партрэтам Расціслава Лапіцкага. 2 верасня мастакі прайшліся па Смаргоні шэсцем у гонар дня нараджэння Лапіцкага. Іх затрымалі і склалі пратаколы. У панядзелак суд на Пушкіным зноў перанеслі, на гэты раз на 24 верасня.**

## Анекдоты

* * *

Каб журавы ляцелі следам за дэльтапланам Пуціна, іх у патрэбным кірунку гналі два знішчальнікі.

* * *

Вырашыў прыгатаваць мяса ў віне, але пасля другой пляшкі забыў, што раблю на кухні.

* * *

Абрам, уладальнік крамы гародніны, папярэджвае жонку:

— Запомні, нічога сёння не купляй у краме у Рабіновічаў.

— Чаму?

— Яны пазычылі нашы вагі.

* * *

Піцерскі «Зеніт» купіў Халка. Засталося яшчэ дакупіць Чалавека-павука, Капітана Амерыку і чатырох чарапашак-ніндзя.

* * *

Сапраўдны адпачынак — гэта калі ты купляеш шорты і панамку, а не новыя шпалеры і ламінат.

* * *

Вядомага матэматыка запыталіся пра аднаго з яго ных былых вучняў.

— Ён стаў паэтам. Для матэматыкі ён меў замала фантазіі.

* * *

– Каханы, я не здала на правы.

— А што завалiла? Практыку? Тэорыю?

– Інспектара, дрэва і двух бамжоў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дзісна. Віленская губерня.** Дзісенская павятовая камісія да выбараў у 4-ую Гас.Думу расклеіла абвесткі і спіскі тых, хто мае права быць выбаршчыкам у Гас.Думу. Усіх выбаршчыкаў 1195 чалавек, у тым ліку 76 сьвяшчэннікаў і... 90 чалавек нябожчыкаў. Здаецца, што спіскі кожны раз павінны рабіцца новыя, а выходзіць так, што за гэтыя пяць гадоў, што была трэцяя Дума, хто і памёр — астаўся выбаршчыкам, а хто нядаўна прыехаў, на таго мусі не хапіла паперы.

**«НН». №34. 1912.**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** «Мы лічым, што свабода сумлення, свабода веравызнання грунтуецца на прызнанні годнасці кожнага чалавека, яго вольным выбары. А праваслаўная Царква вучыць: «Хто нарадзіўся расейцам, той праваслаўны». Але вернікі парафій Маскоўскага патрыярхату — гэта не толькі расейцы. Што тычыцца нашае дзейнасці на «кананічнай тэрыторыі Маскоўскага патрыярхату», дык Езус не падзяляў свету. Ведаеце, у Маскве без надзеі вельмі цяжка».

**«НН». №34. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА.
Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.09.2012.
Замова №4034.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12